Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 40 (4840) 9 кастрычніка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Юрыя Траяна з 65-годдзем. «Сваёй шматгадовай творчай дзейнасцю Вы ўнеслі значны ўклад у развіццё і папулярызацыю беларускага балета. Ваш яркі талент танцоўшчыка, балетмайстра і педагога ў поўнай ступені раскрыўся ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста СССР Армэна Джыгарханяна з 80-годдзем. «Вы заслужылі шырокае прызнанне як яркі акцёр, рэжысёр і педагог. Вашы шматлікія творчыя работы ўзбагацілі залаты фонд савецкага і расійскага кінематографа», — адзначана ў віншаванні.

✔ Рэспубліканская народна-патрыятычная акцыя Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі «Мы — разам!» завяршылася ўчора гала-канцэртам у Мінску. «Галоўная ідэя акцыі — аб'яднанне ўсіх, хто ганарыцца сваёй краінай і кожны дзень з поўнай аддачай працуе на карысць Беларусі, хто хвалюецца за агульную справу і агульную перамогу», — падкрэслілі арганізатары.

✔ Пекінскі тэатр народнага мастацтва ўпершыню выступіць у Мінску на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Спектаклі пройдуць 12 і 13 кастрычніка падчас Дзён культуры Кітая ў Беларусі. Візіт аднаго з найбуйнейшых тэатраў Паднябеснай, які мае 60-гадовую гісторыю, — адказ на выступленне купалаўцаў у Пекіне ў 2013 годзе.

✔ Грандыёзная мультымедыйная выстаўка «Ван Гог. Ажыўшыя палотны» адкрыецца 13 лістапада ў Мінску. Сёлета адзначаецца 125-я гадавіна з дня смерці вялікага мастака. Ва ўсіх еўрапейскіх краінах праходзяць тэматычныя выстаўкі і мерапрыемствы, аб'яднаныя агульнай назвай «Ван Гог: 125 гадоў натхнення».

✔ Заслужаны ўзорны ансамбль народнага танца «Крышталікі» Бярозаўскага гарадскога дома культуры з поспехам прадставіў Беларусь на 46-м Міжнародным фестывалі дзіцячай творчасці «Радасць Еўропы» ў Сербіі. Падчас фестывалю, у якім бралі ўдзел 460 дзяцей з 18 еўрапейскіх краін, адбыліся шматлікія творчыя сустрэчы, карнавалы, канцэрты, конкурсы юных выканаўцаў.

✔ Выстаўка «Фарбы маёй зямлі», на якой прадстаўлены пленэрныя работы мастакоў Беларусі і Расіі, адкрылася ў Гомелі. Экспазіцыя ўключае больш як 20 карцін, створаных падчас пленэру ў Мазырскім раёне. На эцюдах адлюстраваны знакаміты ландшафтны заказнік Мазырскія яры, незвычайныя пейзажы.

✔ Пленэр да 145-годдзя з дня нараджэння знакамітага мастака-пейзажыста Фердынанда Рушчыца адкрыўся ў вёсцы Багданава (Валожынскі раён). Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Нацыянальны мастацкі музей Беларусі і Валожынскі райвыканкам.

ISSN 0024-4686



# Традыцыя чытаць




Фота Касцуся Дробава.

*І чытанне з сям'і пачынаецца! Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз жанчын, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда» аб'явілі акцыю «Сямейнае чытанне». Да яе далучыліся Наталля і Аляксандр Марук з сынам Дзімам.*

Чытайце на стар. 2 ▶

# «ТЭАРТ» без клішэ

**Легендарныя рэжысёры сусветнага тэатра, унікальныя пастаноўкі з глыбокім сэнсам, праграма на любы густ… Усё гэта — V Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ», што адкрыўся на сцэне Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.**

### ТЭАТРАЛЬНЫ ЦЭНТР!

Фестываль — не толькі тэатральнае свята Беларусі, але і вялікая падзея для душы. Як адзначыла падчас цырымоніі адкрыцця першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга, для майстроў тэатра гэта магчымасць паглядзець на працу калег з блізкага і далёкага замежжа, абмяняцца ідэямі, а самае галоўнае — паказаць дасягненні нацыянальнага мастацтва.

Ірына Дрыга зачытала прывітальнае слова міністра культуры Беларусі Барыса Святлова. Дзякуючы форуму «ТЭАРТ» кожны год восеньскай парой Мінск пераўтвараецца ў сапраўдны тэатральны цэнтр, дзе «зачаравальны свет сцэны раскрываецца ва ўсёй яго разнастайнасці, а тэатральная мова ўражвае раней невядомымі мастацкімі магчымасцямі». Колькасць беларускіх тэатраў, якія ўдзельнічаюць у форуме, штогод узрастае.

Старшыня праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Віктар Бабарыка распавёў пра падтрымку тэатральнага мастацтва ў розныя гады.

### АФІША. МІЖНАРОДНАЯ

Праграма фэсту «ТЭАРТ» насычаная і разнастайная, здольная забяспечыць густы як прыхільнікаў эксперыментальных тэатральных практык, так і аматараў традыцыйнага тэатральнага мастацтва.

Спектаклем адкрыцця юбілейнага форуму стала швейцарская пастаноўка **«Донка — пасланне Чэхаву»** Даніэле Фінцы Паска. Ён вядомы як рэжысёр цырымоніі закрыцця Алімпійскіх гульняў у Турыне і Сочы, пастаноўшчык «Цырка дзю Салей» і «Цырка Элуаз».

Чытайце на стар. 13 ▶

# Каб сям'я была разам

**Падчас «круглага стала» на тэму «"Моцная сям'я — моцная дзяржава": сацыяльная палітыка краіны», што прайшоў у Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, быў аб'яўлены пачатак рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне». У якасці арганізатараў і ініцыятараў новага праекта выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз жанчын, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда». Інфармацыйныя каардынатары акцыі — газета «Звязда» і штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».**

— Напярэдадні Дня маці, які будзе адзначацца 14 кастрычніка, варта звярнуць увагу на сацыяльную палітыку нашай дзяржавы, — зазначыла падчас выступлення на «круглым стале» міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. — Сёння наша краіна актыўна працуе ў кірунку фарміравання будучыні. Важна, што і сацыяльная тэма не застаецца без увагі, гэтая тэма блізкая кожнаму з нас.

Новая рэспубліканская акцыя «Сямейнае чытанне» таксама можа ўспрымацца як сацыяльна важная ініцыятыва, мэты якой — пашырэнне кола людзей, зацікаўленых кнігай, захаванне каштоўнасці і цеплыні сямейных адносін. Таму арганізатары запрасілі да ўдзелу абласныя і раённыя выканаўчыя камітэты, бібліятэкі, сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзяржаўныя і прыватныя кніжныя выдавецтвы. У межах праекта плануецца мноства імпрэз: прэзентацыі кніг, аўтограф-сесіі папулярных аўтараў, кніжныя кірмашы, марафоны, фестывалі сямейнага чытання.

Старшыня Беларускага саюза жанчын, міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна зазначыла:

— У нашай краіне сёння налічваецца больш як 77 тысяч шматдзетных сем'яў. 54 працэнты дзяцей, што нарадзіліся летась, — другія, трэція ў сям'і. І вельмі важна, каб сям'я была разам, каб бацькі бавілі як мага больш часу разам з дзецьмі. Як аб'яднаць сям'ю? Спорт, сямейныя святы могуць стаць фактарамі яднання, але перадусім — чытанне. Слова мае вялікую сілу. І добрая кніга з якаснымі малюнкамі, пазнавальнымі гісторыямі — сапраўды выдатны падарунак для дзіцяці. Што можа выхаваць лепш, чым асабісты прыклад бацькоў і кніга? Варта памятаць: высокаадукаванае, культурнае грамадства — гэта грамадства, якое чытае.

Пра карысць вяртання старой традыцыі збіраць вялікія хатнія бібліятэкі распавёў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец:

— У сям'і павінна быць шмат кніг. На паліцах могуць стаяць і педагагічныя даследаванні па выхаванні дзяцей, і мастацкія творы для маленькіх чытачоў. Мы стараемся быць карыснымі сем'ям, дорым ім наборы кніг. Але варта працаваць не толькі з сем'ямі і школамі. Трэба звярнуць увагу і на дзіцячыя садкі — яны таксама фарміруюць інтарэсы, і на ўніверсітэты, што прызваны садзейнічаць далейшаму развіццю здольнасцей маладых грамадзян.

Думаецца, акцыя «Сямейнае чытанне», якая стала лагічным працягам праекта «Лета з добрай кнігай», будзе мець поспех. Бо што можа быць лепей, чым прабавіць халодны восеньскі ці зімовы вечар у цёплай сямейнай атмасферы разам з любімымі аўтарамі і іх захапляльнымі творамі?

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Фота Надзеі Бужан.

*Падчас пасяджэння «круглага стала» на тэму «"Моцная сям'я — моцная дзяржава": сацыяльная палітыка краіны».*

# Традыцыя чытаць

**Якую ролю адыгрывае сям'я ў пашырэнні чытацкай прасторы? Вось што думаюць з гэтай нагоды старшыні рэгіянальных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Анатоль Крэйдзіч, Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ:**

— Калі нарадзіліся мае дочкі, я шмат чытаў і пісаў, друкаваўся ў літаратурнай перыёдыцы, увогуле быў апантаны літаратурай. Ды і жонка купляла ўсе новыя кнігі, асабліва зборнікі паэзіі, многа чытала, разам са мной абмяркоўвала творы. Дарэчы, мы ж і сышліся дзякуючы паэзіі: я пісаў ёй вершы, а яна іх ілюстравала. Калі дзеці падраслі, акрамя праграмных твораў пачаў «падкідваць» ім сучасную прозу. У старшых класах яны ўжо добра ведалі, які пісьменнік пра што піша, і мы маглі падоўгу абмяркоўваць, каму аддаваць перавагу. Старэйшая дачка скончыла лінгвістычны ўніверсітэт, а малодшая — каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка, цяпер студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Яна ўжо не толькі шмат чытае, але і сама піша. Натуральна, цяпер мы можам не толькі размаўляць пра літаратуру, але і спрачацца!

**Тамара Краснова-Гусачэнка, Віцебскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Колькі сябе памятаю, у сям'і было прынята чытаць адзін аднаму ўслых вершы, прозу ды іншыя творы, абменьвацца меркаваннямі. Старэйшыя звярталі ўвагу малодшых на кнігі, што запомніліся і палюбіліся ім у дзіцячыя і юнацкія гады. Любімыя кнігі захоўвалі ў хатніх бібліятэках — іх збіралі ўсёй сям'ёй. Дзеці пераймаюць стаўленне да чытання і кнігі, якое існуе ў бацькоў: чытаюць бацькі — чытае дзіця. Вельмі важна зрабіць гэта звычкай для дзіцяці, бо выхаваўчае ўздзеянне кнігі на развіццё асобы бясспрэчнае. Менавіта ў дзіцячым і юнацкім узросце адбываецца фарміраванне светапогляду, пошукі ідэалу, свайго месца ў жыцці! Ад таго, ці чытаюць дзеці, што і як чытаюць, залежыць іх сённяшні поспех і заўтрашні лёс — лёс будучыні краіны.

**Уладзімір Гаўрыловіч, Гомельскае абласное аддзяленне СПБ:**

— У пару майго дзяцінства сям'я адыгрывала вялікую ролю ў прывіцці дзецям любові да чытання. Мае бацькі, напрыклад, людзі ад зямлі, і на кнігі часу было мала. Усё ж зімою, калі клопатаў менела, пачытаць любілі. Слухалі, што мы расказвалі аб прачытаным. Мама казала: «Кніжка — выдатны настаўнік». Ды і сама яна чытала шмат.

Мы з жонкай таксама стараемся, каб дзеці чыталі больш. Праўда, уражанні ад кніг у дзяцей і дарослых часам розныя, але «міні-рэцэнзіі» ўслых вельмі яднаюць сям'ю. Таму ўпэўнены: сям'і належыць значная роля ў папулярызацыі чытання.

Сёння практычна ва ўсіх ёсць доступ да сецiва — толькі б яно было на карысць дзецям! Мне ж бліжэй кніга друкаваная. Наведваючы бібліятэкі рэгіёна, сустракаю тут як дарослых, так і дзяцей — добра, што ў кожнага сваё захапленне. Перакананы: будучыня — за бібліятэкай сямейнага тыпу або сямейнага чытання. Хацелася б, каб ладзілася яшчэ больш акцый, у якіх бы дарослыя і дзеці ўдзельнічалі разам.

**Людміла Кебіч, Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Ці нарадзіцца ў сям'і любоў да кнігі і чытання, залежыць ад бацькоў. Калі дзіця ад пачатку бачыць у руках мамы і таты кнігі, калі бацькі чытаюць дзецям казкі і вершыкі-пацешкі з маленства, а пазней разам з імі наведваюць кніжныя крамы, прыцягненне да чытання будзе закладвацца паступова і трывала захавaецца на ўсё жыццё. Дагэтуль памятаю свае першыя кніжкі, нават на сёлетняй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы адну з іх набыла — ужо для ўнучкі. Колькі нам было радасці чытаць яе разам! Памятаю з дзяцінства, як у сям'і ледзь не пасварыліся з-за кнігі Аляксея Карпюка «Вершалінскі рай». Тады тата купіў яшчэ два экзэмпляры: чытайце! Такое не забудзецца.

Праз чытанне ў сям'і выхоўваецца мастацкі густ — галоўнае, каб гэта была высокапрафесійная мастацкая літаратура, змястоўная, цікавая.

**Уладзімір Дуктаў, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Ад сям'і залежыць шмат што: светаадчуванне, звычкі, характар. Толькі сям'я прывучае дзіця чытаць! Кніга — лепшы сябар, традыцыя ўсіх часоў і сямейная каштоўнасць. Я заўсёды любіў чытаць свайму сыну, а сёння — па-беларуску ўнучцы, каб з дзяцінства разумела і любіла родную мову. У нашай краіне жывуць таленавітыя пісьменнікі, якіх варта ведаць і паважаць. Што да класічнай літаратуры — гэта наш скарб і скарб нашай будучыні. Абавязковы клопат сённяшняга грамадства — данесці яе сэнс і багацце да маладошага пакалення. Мае бацькі ў дзяцінстве таксама чыталі мне збольшага па-беларуску, расказвалі пра пісьменнікаў і паэтаў, так і падштурхнулі да літаратуры.

**Міхась Пазнякоў, Мінскае гарадское аддзяленне СПБ:**

— За савецкім часам да сям'і невыпадкова ставіліся як да асноўнай ячэйкі грамадства — з асаблівай увагай. Калі бацькі шануюць кнігу, любяць чытаць, набываюць літаратуру, фарміруюць хатнюю бібліятэку, наведваюць кніжніцы, гэта абавязкова перадасца. Памыляюцца тыя бацькі, якія спадзяюцца ў гэтай справе толькі на дзіцячы садок і школу. Калі сям'я змалку навучыць дзетак цаніць кнігу, дзіцячае чытацкае кола будзе пашырацца, духоўна ўдасканальвацца і ўзбагачацца. Тады і будзем мець шырокую чытацкую прастору. А ўрэшце — больш дасведчанае, адукаванае, выхаванае і здаровае грамадства!

Выдатна, калі нашы бібліятэкі паўсюль будуць вызначаць і заахвочваць самыя актыўныя ў чытанні кніг сем'і. Вось чаму мы ладзім конкурсы чытальнікаў мастацкіх твораў, ствараем студыі мастацкага чытання, разам з бібліятэчнымі работнікамі імкнёмся заахвочваць юных аматараў кнігі.

**Алесь Карлюкевіч, Мінскае абласное аддзяленне СПБ:**

— «Сямейнае чытанне», відавочна, зойме ў працы пісьменніцкага супольніцтва не меншае месца, чым рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай». Дзецям чытаць разам з бацькамі, бацькам і пісьменнікам выпрацоўваць агульныя падыходы ў выбары галоўных кніг — хіба ж гэта не важна?!

У нашым аддзяленні многа дзіцячых пісьменнікаў. Мяркую, яны першымі спрычыняцца да ўдзелу ў акцыі. Чакаем ад іх ініцыятывы, спадзяёмся на новыя ідэі ў арганізацыі чытацкіх сустрэч, фестываляў сямейнага чытання.

Асабіста для мяне сям'я ў дзяцінстве адыграла велізарную ролю ў прыцягненні да сістэматычнага чытання. Найперш я за гэта ўдзячны сваім бацькам.

**Вікторыя АСКЕРА, Яна ЯВІЧ**

# Час першай главы

Чацвёрты сезон літаратурнага конкурсу «Першая глава», арганізаванага выдавецтвам «Рэгістр» з мэтай пошуку новых айчынных аўтараў, распачаўся ў нашай краіне.

Да ўдзелу прымаюцца любыя не выдадзеныя раней празаічныя творы (аповесці, раманы і г. д.) на рускай ці беларускай мове, незалежна ад удзелу ў іншых творчых спаборніцтвах (у тым ліку ў конкурсе «Першая глава»). Твор (ад удзельніка можа быць прынята і некалькі) прадстаўляе толькі яго аўтар, які жыве ў Беларусі. Аб'ём тэксту — ад 400 тысяч знакаў з прабеламі (10 аўтарскіх аркушаў). Праводзіцца абавязковая праверка на плагіят. Творы прымаюцца на электронную пошту *konkurs@profmedia.by* да 31 кастрычніка 2015 года.

Журы ацэньвае конкурсныя работы па дзесяцібальнай сістэме. Тры работы, якія набяруць найбольшую колькасць галасоў, выходзяць у фінал. Імёны лепшых будуць урачыста абвешчаны на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў лютым 2016 года. Пераможца ў намінацыі «Выбар прафесійнага журы» атрымае магчымасць заключыць кантракт на выданне кнігі ў друкаваным і электронным выглядзе цягам года з моманту абвяшчэння вынікаў, а пераможца ў намінацыі «Выбар чытачоў» — магчымасць заключыць кантракт на выданне лічбавага варыянта кнігі з размяшчэннем у інтэрнэт-крамах.

Як распавяла PR-менеджар выдавецтва «Рэгістр» Марыя Лук'янава, ва ўмовы конкурсу ўнесены пэўныя змены: так, цяпер да ўдзелу прымаюцца толькі цалкам завершаныя творы. А пераможцы ў намінацыях вызначацца пасля складання шорт-ліста, куды ўвойдуць лідары галасавання.

Больш падрабязна з патрабаваннямі да афармлення конкурсных работ, умовамі галасавання і г. д. можна азнаёміцца на афіцыйным сайце конкурсу «Першая глава»: *www.1glava.by.*

**Яна ЯВІЧ**

# Застанецца ў памяці нашай

**На 92-м годзе жыцця не стала выдатнага пісьменніка, таленавітага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Ануфрыевіча Савіцкага. Перастала біцца сэрца палымянага патрыёта, цудоўнага чалавека, мудрага сябра.**



Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч) Савіцкі нарадзіўся 8 студзеня 1924 года ў горадзе Полацку ў сям'і рабочага.

З 1942 г. — партызан атрада «Смерць фашызму», з 1943 г. — камандзір падрыўной групы атрада «Бальшавік» брыгады імя Варашылава на Віцебшчыне. У 1944 — 1945 гг. — у Савецкай Арміі, удзельнічаў у вызваленні Літвы, Польшчы, у баях за ўзяцце Берліна. Быў тройчы паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў у рэдакцыі Полацкай газеты «Бальшавіцкі сцяг» (пазней «Сцяг камунізму»). У 1958 г. скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага, у 1961 г. — аспірантуру пры інстытуце. Працаваў загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Ураджай», у 1962 — 1969 гг. вучоны сакратар Літаратурнага музея Якуба Коласа. У 1969 — 1973 гг. загадваў сектарам мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Ганаровы грамадзянін г. Полацка. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1961 г.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны», «Айчыннай вайны» I ступені, медалямі. Баявы Ордэн Славы III ступені знайшоў былога воіна Алеся Савіцкага праз пяцьдзясят гадоў пасля Вялікай Перамогі.

У творах Алеся Ануфрыевіча Савіцкага — яркае і праўдзівае адлюстраванне жыцця нашых сучаснікаў, іх мужнасці і геразіму ў гады ваеннага ліхалецця і ў мірны час. На яго творах выхавана не адно пакаленне, бо галоўныя героі — людзі працавітыя, верныя сваёй зямлі і бацькоўскім запаветам.

Першае апавяданне Алесь Савіцкі надрукаваў у 1948 годзе ў Полацкай абласной газеце «Бальшавіцкі сцяг». Ён аўтар кніг апавяданняў, аповесцей «Кедры глядзяць на мора» (1960), «Пасля паводкі» (1962), «Белы гарлачык» (1965), «Самы высокі паверх» (1969), «Белая знічка» (1984), дакументальнай аповесці «След пракладае першы» (1971). Яго пяру належаць глыбока псіхалагічныя раманы «Жанчына» (1963), «Палын — зелле горкае» (1967), «Верай і праўдай» (1976), «Толькі аднойчы» (1979), «Зямля не раскажа» (1980), «Літасці не чакай» (1982), «Памерці заўсёды паспееш» (1983), «Верасы» (1987), «Обаль» (1989, 2013). Вялікую цікавасць у чытачоў выклікалі творы апошніх гадоў: кнігі прозы і публіцыстыкі «Сонца на ўсіх адно» (2011), раман «Пісьмо ў рай» (2012).

Багата часу прысвячаў умудроны жыццёвым і творчым досведам пісьменнік маладым літаратарам і ўвогуле моладзі. Для школьнікаў і студэнтаў ён рэгулярна праводзіў у Доме літаратара ўрокі мужнасці.

Алесь Савіцкі — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970) за аповесць «Самы высокі паверх». За кнігу для дзяцей «Дзівосы Лысай гары» пісьменнік ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (2002). Ён таксама лаўрэат прэстыжнай міжнароднай літаратурнай прэміі «Прохараўскае поле».

Светлая памяць пра сябра, самабытнага пісьменніка, патрыёта назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

## Генадзь ПАШКОЎ

# Вогнішча на доце

*Памяці пісьменніка і партызана Алеся Савіцкага*

*У лагодны вечар*
*на пачатку мая,*
*ледзьве рунь запесціцца*
*ў тумановым сне,*
*дот стары над полем*
*пад сівым Заслаўем*
*іскрамі траскучымі цемру*
*красане.*

*Ледзьве месяц сонны*
*бліснуў над барамі,*
*ажылі чаромхі*
*звонам салаўёў.*
*Партызан Савіцкі*
*з вернымі сябрамі*
*на бетоне мшэлым*
*вогнішча развёў.*

*А былыя хлопцы,*
*з кім ішлі на рэйкі,*
*з кім каля рэйхстага*
*пралівалі кроў,*
*бачацца здалёку*
*скрозь слязу на вейках —*
*сталі пабрацімы зорамі палёў.*

*Эх, жыццё-гаркота!*
*Прысмак палыновы!*
*Глянь на шлях свой зблізку,*
*пагля́дзі здалёк —*
*не абняць рукамі,*
*не ахопіш словам,*
*як у небе чыстым*
*з іскрамі дымок!*

*І туды сышоў ты —*
*Што не верым самі!..—*
*Стынь вакол касмічная*
*росіцца ў галлі…*
*Сцежкі асвятляеш*
*даўнія*
*барамі*
*у сівых туманах*
*роднае Зямлі.*

# Слова на развітанне

Ён вельмі любіў Полацк. «Мы полацкія мальцы», — часта паўтараў, калі трэба было засведчыць сваю пазіцыю, калі, абмяркоўваючы тое ці іншае пытанне літаратурнага або грамадскага жыцця, трэба было падкрэсліць, што на першым месцы павінны быць сумленнасць і шчырасць. Гэтыя якасці Алесь Ануфрыевіч пранёс праз усё сваё доўгае жыццё. Жыццё, на якім ён паспытаў нямала: і партызанскае юнацтва, і франтавое братэрства, і творчы ўзлёт, і здраду, і вернасць, і славу, і прызнанне.

«Мы полацкія мальцы…» У час сумесных вандровак у родны горад мы падымаліся на Вал Івана Грознага — туды, дзе была хата яго бацькоў, стаялі на высокай выспе каля Сафійскага сабора — там, дзе вірлівая Палата ўпадае ў шырокую Дзвіну…

Летам, калі разам удзельнічалі ў літаратурных сустрэчах у родным горадзе, ён раненька пастукаў у дзверы майго нумара, і мы паехалі на Чырвоныя могілкі, дзе ляжаць мае бацькі і яго бабуля. Не хацелася так думаць, але нешта падказвала мне, што Алесь Ануфрыевіч нібыта падводзіў пэўны рахунак, рабіў справаздачу перад любімым Полацкам за ўсё, што было зроблена на жыццёвым і літаратурным шляху.

Між тым ён выглядаў бадзёрым і моцным, і ўсе, з кім сустракаўся, радаваліся, што ў свае дзевяноста з лішнім ён захаваў ясны розум і малады запал душы…

Ён хацеў прыехаць сюды яшчэ. Алеся Ануфрыевіча вельмі цешыла, што на радзіме абвʼяўлена літаратурная прэмія яго імя, і ён марыў, як мы прыедзем уручаць яе будучым лаўрэатам…

Ужо не давядзецца… Але прэмія, спадзяюся, будзе жыць, як будзе жыць светлая памяць пра гэтага цудоўнага чалавека, грамадзяніна, патрыёта, Палачаніна!

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Мужнаму чалавеку

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Аляксандра Ануфрыевіча Савіцкага. Аляксандр Ануфрыевіч на працягу 7 гадоў, з 1962 па 1969 гады, працаваў вучоным сакратаром у музеі Якуба Коласа.

Памяць пра яго будзе вечнай, бо Алесь Савіцкі як чалавек і як пісьменнік прысвяціў сваё жыццё і свой шчодры талент служэнню высокім ідэалам. Былы партызан-падрыўнік, баец Чырвонай Арміі, які з баямі дайшоў да Берліна і пераможна распісаўся на сцяне рэйхстага, чалавек, які быў тройчы паранены, неадноўчы глядзеў смерці ў вочы, Алесь Савіцкі не пераставаў сцвярджаць дабро ў самых галоўных, на яго думку, чалавечых якасцей — мужнасць. «Чалавек павінен быць мужным. Мужным у горы. Гора тады робіцца меншым. Мужным у бядзе. Тады бяда ніколі не возьме верх над чалавекам. Мужным у радасці. Тады чалавек не забудзе падзяліцца радасцю са сваім сябрам…».

Жыццёвы шлях, мудрасць і творчыя здабыткі Аляксандра Ануфрыевіча назаўсёды застануцца ў сэрцах людзей.

Студыя ваенных пісьменнікаў Цэнтральнага Дома афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага пісьменніка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Гродзенскае абласное адзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці старэйшага пісьменніка Беларусі, вядомага празаіка-патрыёта і цудоўнага чалавека Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і шчыра спачувае яго родным і блізкім.

Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю нашага славутага земляка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, пісьменніка Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА.

Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці славутага беларускага пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў выдавецтва «Чатыры чвэрці» смуткуе ў сувязі са смерцю любімага аўтара Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА. Светлая памяць пра яго назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

Члены Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуюць з нагоды смерці выдатнага празаіка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і выказваюць спачуванні яго родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, пісьменніка Алеся Савіцкага.



Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Валерыя Аляксандравіча ЯРМОЛЕНКІ і выказвае шчырыя спачуванні сваякам і блізкім.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўгену Сцяпанавічу БУЛАВЕ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Арнольда Уладзіміравіча ДЫБЧЫ і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Шаноўная рэдакцыя!

Дазвольце мне на старонках вашай газеты перадаць самыя шчырыя словы ўдзячнасці ўсім, хто выказаў свае спачуванні, падтрымаў мяне ў цяжкі момант жыцця — смерці маці Евы Аляксандраўны ЛОКУН.

**Валянціна ЛОКУН**



## Віктар ШНІП

### Балада Марціна Кухты

(1875 — 1956)

*У Вільню, як у Рым, усе сцяжыны.*
*І ты прыйшоў сюды не каву піць*
*І рукі цалаваць старым жанчынам,*
*Каб потым толькі грошы іх любіць.*
*І Вільня для цябе як цэнтр сусвету,*
*Дзе кожнаму ў Еўропу ёсць акно,*
*Дзе вершы геніяльныя паэты*
*Ствараюць, нібы ткуць з агню руно,*
*Якое цэніш ты, як вернасць цэніш,*
*Бо ты не проста віленскі друкар,*
*Які прыгожыць словамі паперу,*
*А вечнасць ёй даеш, здзяйсненне мар*
*Даеш паэту, што ля сіняй бухты*
*Напіша з думкамі аб родным краю:*
*«Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты».*
*І ты, выходзячы з друкарні ў Вільню,*
*Глядзіш на зоры, да якіх ляцім.*
*І спраў хапае для цябе шчэ пільных,*
*Бо ты прыйшоў у Вільню, як у Рым.*

***

*Зайдзі ў электрычку, сыдзі каля гаю,*
*Дзе ўжо больш няма ні ваўкоў, ні грыбоў,*
*А толькі паэзія, што памірае*
*Вось так, як памерла да рыфмы любоў,*
*Бо рыфма патухла, нібы цыгарэта,*
*І ціш пачалася, нібыта вайна,*
*І вецер вярнуўся з нябелага свету*
*З вялікаю поўняй, як куфлем віна.*
*Не думай, што ты, як апостал, самотны,*
*Самотных ніхто ў нас не любіць цяпер,*
*Амаль як не любім будынкаў высотных,*
*І пятніца лепшая ў нас за чацвер,*
*Бо потым прыходзіць, як сонца, субота,*
*А сонца ў суботу няма, а дажджы.*
*І ты распінаеш сябе з асалодай*
*На ложку рыпучым, нібы на крыжы.*
*Паслухай паэта, дурноту не раю,*
*І заўтра лепш будзе табе, чым учора,*
*Зайдзі ў электрычку, сыдзі каля гаю,*
*Калі немагчыма сысці каля мора…*

***

*За сонцам балтыйскім, прачнуўшыся рана,*
*Па Куршскай касе мы да Томаса Мана*
*Вандроўна прыйшлі, а яго няма дома*
*І дзе нам яго адшукаць — невядома.*
*На століку кніга — матыль велізарны,*
*Які абляніўся лятаць у пакоі,*
*Стаў кнігай святой, не раманам бульварным,*
*Пакінуўшы свет у класічным спакоі.*
*На сцэнцы гадзіннік маўклівы, як вечнасць,*
*Вісіць на цвіку, нібы поўня на зорцы.*
*Разважна павук парасплёў сваю млечнасць*
*Пад столлю, як небам, у змрочнай каморцы.*
*Вітаюцца немцы, а мы, як нямыя,*
*З усмешкай няспешна праходзім ля іх,*
*Нібыта яны нам зусім не чужыя,*
*У Мана людзей не бывае чужых.*
*А сосны шумяць каля дома, як мора,*
*І дом караблём адзінокім плыве*
*У заўтрашні дзень з незнаёмага ўчора,*
*Дзе зоры рассыпаны, нібы ў траве,*
*У небе, дзе ёсць беларускае мора…*

***

*У Свіслачы вада вячэрняю гарбатай*
*Цячэ, а мы стаім на мосціку гарбатым,*
*І нашы цені размываюцца вадою,*
*Нібыта шэры лёд, што не растаў вясною.*
*Гаворыш ты, што вечнага няма нічога*
*І сонная рака нібыта ў рай дарога,*
*Які там ёсць, дзе нас няма і век не будзе.*
*Ліхтар ля Свіслачы і ў ім, нібы ў сасудзе,*
*Агонь, нібы матыль, трапечацца ў паўзмроку,*
*І па вадзе туман, нібы Хрыстос, здалёку*
*Ідзе праз Мінск у Менск, які яшчэ, бывае,*
*Са Свіслачы старой іконаю ўсплывае*
*І лісцем восеньскім плыве, не кожны бачыць,*
*Праз дзень кароткі, што цяпер, як хвост сабачы,*
*Аблеплены калючкамі дажджоў і ветру.*
*Гаворыш ты: «Самотна мне…» Табе я веру,*
*Бо ў Свіслачы вада вячэрняю гарбатай*
*Цячэ, а мы стаім на мосціку гарбатым,*
*І з ценяў нашых, што як шэры лёд вясною,*
*Крупінкі зорак вымываюцца вадою…*

***

*У музыцы старых дзвярэй вакзальных*
*Мне чуюцца памерлых галасы*
*Сяброў, як гэты белы свет, звычайных*
*І мудрых, як дрымучыя лясы.*
*Сябры сышлі, як дні сыходзяць светла,*
*Пакінуўшы мне права на жыццё*
*Без іх у свеце, дзе дажджамі лета*
*Змывае з дрэў, нібы агонь, лісцё.*
*Праходжу, як праз музыку, праз дзверы,*
*Нібыта ў вечнасці, іду ў дажджы.*
*Маланкі, як сарваныя шпалеры,*
*Якімі пазаклеены крыжы*
*Былі на небе, што было нам Храмам,*
*Куды нас не пускалі, мы ж прыйшлі,*
*Калі нас нараджалі нашы мамы,*
*Не помнячы, што ўжо мы тут жылі…*



Фота Кастуся Дробава.

## Дэбют



## Бажэна МАЦЮК

Нарадзілася ў г. Вілейка Мінскай вобласці. Стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Вершы, эсэ і артыкулы друкаваліся ў часопісах, газетах, калектыўных зборніках паэзіі. У суаўтарстве з айчынным паэтам Віктарам Кажурам выдала зборнік вершаў «Гэта ўсё — Радзіма наша» (2013). Выкладае беларускую мову і літаратуру ў сталічнай гімназіі № 31. Галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

***

*Спяшалася знайсці Вас — не паспела.*
*Імкнулася забыць — і не змагла.*
*Вас прагнула душа. Яна сталела,*
*А позірк Ваш нязменным зберагла.*

*Я ведаю, што Вы — складаны ідал.*
*Вы двухаблічны — шчасце і бяда,*
*Мая нястача, бездань, Атлантыда:*
*Вы ёсць — хвіліна — Вас ужо няма.*

***

*Я рэдка пішу пра каханне,*
*Сяброўства, Радзіму, бацькоў,*
*Бо гэта не проста прызнанне —*
*Маленне, што спета наноў.*
*За кожным найменнем — асоба,*
*За словам — і радасць, і боль,*
*А вершы — яны толькі спроба*
*У заўтра складаць бандэроль.*
*З кахання не зробіш пакунак,*
*Сяброўства не ўкруціш з бакоў,*
*Не створыш Радзімы рахунак,*
*За шкло не схаваеш бацькоў,*
*Каб нехта не змог іх параніць,*
*Не знішчыў бы вецер надзей.*
*Сурочыць, ламаць і паганіць —*
*Ёсць звычка такая ў людзей.*
*Таму я маўчу пра каханне,*
*Сяброўства, Радзіму, бацькоў,*
*Бо гэта — не проста прызнанне…*
*Маленне, што спета наноў…*

***

*Я знікну. Я гэта адчула*
*Раптоўна. І не адмыкаюць*
*Ключы. Рашуча і чула*
*Зламаю. Так ранкі знікаюць.*

*Жывая. І боль — толькі сведка*
*У часе. Цябе прагартаю*
*Цікаўна. Застылая кветка*
*Не звяне. А восень жывая.*

*Прабач мне. Ты шчасце, якога*
*Не будзе. Я зерне — яго рассяваюць*
*На полі. Кагосьці дарога*
*Чакае. Усе прабачаюць.*



## Святлана МАКАРАВА-ГРЫЦЭНКА

Расійская паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Расіі, старшыня рэгіянальнага аддзялення СП Расіі г. Краснадара. Прадстаўляем чытачам «ЛіМа» яе вершы, пераствораныя па-беларуску.

***

*Я вершы болей не пішу,*
*Іх проста я ў душы нашу,*
*І сэрца беднае маё*
*Крывавіць рыфмаў вастрыё.*
*Пісаццa вершам не даю,*
*Бягу, спяшаюся, злую,*
*Ды сонца, ветрыку шуршок —*
*І ўжо народжаны радок*
*Мяне стралою працінае,*
*І верш мой свечкаю міргае…*
*Не затушыць бы незнарок.*

***

*Нам на гэтай зямлі сёння жыць.*
*Стыне неба пад хмарамі цёмнымі.*
*Юны парастак ў небе дрыжыць,*
*Быццам слова, што будзе прамоўлена*
*І да вуснаў вось-вось дабяжыць,*
*І слязінкай матулінай скоціцца,*
*Нешта ціха нашэпчуць дажджы,*
*І вясна ціха ў сэрцы народзіцца.*
*Нам на гэтай зямлі сёння жыць.*
*Я цябе разгадаю аднойчы,*
*І па лёсе мы разам пакрочым.*
*Нам на гэтай зямлі сёння жыць!*

### Паэтцы

*Ідзе з усмешкаю прывабнай,*
*Чаруе ўсіх, нібы дурман.*
*А ў шчырых строфах вершаваных*
*Каханы, здольны на падман.*
*Ды і ў радках яе тужлівых*
*Няшчасці ў некалькі радоў,*
*А ноччу — стогны праваду*
*Без спадзявання стаць шчаслівай.*
*Здаецца яркай, апантанай,*
*Далёкай ад сардэчных ран.*
*І не сумуе. А каханы,*
*Між іншым, здольны на падман.*

***

*Прымаюць з неба кожны верш*
*Неабыякавыя душы,*
*Паўторыць лёс яго найперш,*
*Радком аблашчыць вочы, вушы.*

*Пасля іх праспявае плёс,*
*Лядзяш прастукае на «Морзэ»,*
*Свавольнік-вецер скрозь мароз*
*Шапне напудранай мімозе.*

*Душа з удзячнасцю ізноў*
*Падорыць звонкіх струн гучанне.*
*Паэт, народжаны світаннем,*
*Кранае вечнасць сілай слоў.*

**Пераклала з рускай мовы Аксана ЯРАШОНАК**

Георгій МАРЧУК



# Аўтобус, Ліфт і Насценны Гадзіннік

*Прысвячаю казачніку з Даніі Гансу Хрысціяну Андэрсену і казачніку з Расіі Паўлу Бажову*

Бог усё бачыць. Ён не толькі сочыць за ўчынкамі чалавека, але і ўважліва ставіцца да ўсяго наваколля. А гэта і расліны, і дрэвы, і птушкі, і звяры, і насякомыя, і дамы, і азёры, і рэкі. Некалькі разоў на год, а трэцяй гадзіне ночы, калі ўсе людзі моцна спяць, Бог збірае розныя прадметы і нават рэчы ў якімсьці месцы, каб яны пазнаёміліся адно з адным ды пагаманілі пра сваё жыццё побач з чалавекам. Бабуля мне расказвала, што, пакутуючы на бяссонніцу, аднойчы ў сваёй вёсцы на беразе возера бачыла, як ля яе дома сышліся ў тры гадзіны ночы плот, калодзеж і сенакасілка. Пра што гаварылі, яна не ведае, бо наблізіцца не рызыкнула.

Аднойчы ў нашай сталіцы, прыгожым горадзе Мінску, а трэцяй гадзіне ночы сустрэліся ў парку Аўтобус, Ліфт і Насценны Гадзіннік. Разгаварыліся. Нават паспрачаліся: каму цяжэй за ўсіх жывецца на зямлі? Першым пачаў скардзіцца Аўтобус.

— Горш за маю долю нічога на свеце няма. Працую з самага ранку і да ночы, як выкляты, без выхадных і свят. Улетку спякота, няма чым дыхаць, асабліва калі пад горку еду, а ў салоне пасажыраў — як селядцоў у бочцы. Вады хочацца, ды нельга збочыць з маршруту. А на дарозе — жах. Сотні машын, матацыклаў, маршрутак, тут толькі не разгубіся, глядзі пільна. Здараецца і так, што ліхач выскачыць з-за павароткі ці пешаход на чырвонае святло скокне… проста пад колы. Ледзь паспяваю тармазнуць. Узімку гэты… як яго… галалёд… яшчэ адна небяспека. Цёмна робіцца, снег лабавое шкло кожную хвіліну засыпае. Нацягаюся за змену так, што і сон не радуе. Ды які там сон… тры-чатыры гадзіны ўсяго толькі, а ў палове на пятую — зноў на маршрут. І вось так усе дваццаць гадоў. Ніхто «дзякуй» не скажа.

— Сапраўды, цяжка табе, — паспачуваў Ліфт.

Аўтобус працягваў.

— Сварацца на мяне часцяком, не зважаючы ні на што: «Куды гэты стары хлам падзеўся? Заўсёды спазняецца». Людзі ўсе цяперака знерваваныя, злосныя. Спрачаюцца з шафёрам, сварацца з кандуктарам. Ды гэта яшчэ што! Сядзенні нажом крэмзаюць, а мне ж балюча. Вось… такое яно, маё жыццё акаяннае.

Уважліва, не перарываючы, слухалі Аўтобуса Ліфт ды Насценны Гадзіннік, і кожны думаў пра свой лёс.

— Та-а-ак, браток, цяжкая твая доля, — пачаў Ліфт. — Але горш за мой лёс, відаць, няма нічога на свеце. Табе, Аўтобус, яшчэ можна і не скардзіцца. У цябе ж свабода. Ты ж свет Божы бачыш. Дамы, машыны, неба, сонца, самалёты, ёлкі, дзяцей на каньках, спартыўныя спаборніцтвы, канцэрты, парашутыстаў… Ах, вышыня — гэта мая слабасць. Кажуць, ужо ёсць ліфты, якія ўзлятаюць на саракавы і нават на пяцідзясяты паверх. Я ж вышэй за восьмы ніколі не ўзнімаюся. Будынак васьміпавярховы, а я адзін на ўвесь стары дом. І таксама працую з самага ранку, а часам і ўначы непакояць — які там адпачынак! Палову жыцця — у цемры, як крот. Ды яшчэ які нахабнік з цыгарэтай увойдзе, задыхаюся. З раніцы да ночы — уніз-уверх, уверх-уніз. Калі ж часам якая дэталь зламаецца і я засяду між паверхамі — ад крыкаў і лямату млосна робіцца: «Ліха на яго! І калі яго ўжо толькі на сметніцу выкінуць!» Усе сварацца, рукамі ў дзверы стукаюць, а дурны які дык і нагой грукне. На сцяне драпаюць словы і малюнкі розныя, хто крэйдай, хто сцізорыкам. А яшчэ, здараецца, напхнуць паўнюткую кабіну мэблі ды яшчэ самі ўплішчуцца, і вязі іх на восьмы. Ледзь тросы вытрымліваюць. Вось, думаю, яшчэ паверх-два, і дно не вытрымае, праваліцца. Вох, жыццё маё недарэчнае, няўдалае, нікому не пажадаю гэткага лёсу, — з сумам скончыў расповед Ліфт.

— Праўда, што і казаць, табе цяжэй на зямлі, чым мне, — пагадзіўся Аўтобус.

— Сябры мае, вам яшчэ грэх наракаць на лёс, — супакоіў Насценны Гадзіннік. — Вось ты, Аўтобус, колькі за дваццаць гадоў перавёз людзей? Сотні тысяч, можа нават і мільён. Хіба ж яны не дзякуюць табе? Ты сочыш за тым, каб ім у салоне было цёпла і ўтульна. Школьнікаў, што спазняюцца, заўсёды цярпліва чакаеш.

— Адкуль ты гэта ведаеш? — спытаў Аўтобус.

— А мне мой гаспадар, стары паэт, расказвае, што на вуліцы адбываецца, — адказаў Гадзіннік і працягнуў сваю гісторыю.

— Нікому ж ты, Аўтобус, за гэтыя дваццаць гадоў не прыціснуў руку дзвярыма?

— Нікому.

— Малайчына. А ты, Ліфт? Колькі разоў ратаваў хворых?

— Як гэта? Я ж не доктар, — здзівіўся Ліфт.

— А вось як: на любы паверх да цяжкахворага паспяваў давезці доктара «хуткай дапамогі»! А колькі мамачак удзячныя табе за тое, што ты павольна паднімаў і апускаў каляскі з іхнімі дзеткамі. Ніводная мама без цябе не зацягне каляску з малым на пяты ці восьмы паверх.

— Што праўда, то праўда, — адказаў Ліфт.

— Вось і я пра тое. А мне, скажу шчыра, нявесела. Хоць і ў цяпле жыву, і галалёду ніколі ў жыцці не бачыў. І ты, Аўтобус, і ты, Ліфт, хоць гадзіну, дзве, тры ды можаце адпачыць, паспаць… А мне нельга. Няма такога звычаю. Спыніцца час, калі я ды ўсе гадзіннікі перастануць адлічваць хвіліны і гадзіны, усё на свеце перакуліцца. Маё месца — на сцяне. І я, акрамя свайго гаспадара, старэнькага, амаль сляпога паэта, ды сястры маёй зязюлькі на цыферблаце, ужо які год нікога не бачу. Не ведаю, што са мной будзе, калі гаспадара ўладкуюць у дом ветэранаў. Можа, новыя гаспадары і зусім выкінуць мяне. Жыву, і кожны дзень страх душу ахінае.

— Я б цябе ўзяў да сябе, ды не прынята, — раззлаваўся Ліфт.

— І ў мяне ў салоне староннім заставацца нельга, — адгукнуўся Аўтобус.

— Дык вы яшчэ павінны радавацца: патрэбныя ж людзям! А калі ты патрэбны нават аднаму чалавеку, можаш лічыць сябе шчаслівым, — на заканчэнне прамовіў Насценны Гадзіннік.

— Ты папрасі Бога, можа, ён твой лёс як зменіць? — параіў Аўтобус.

— Не выдумляй. Ды ён пра нас, можа, і не ведае. У яго з людзьмі праблем поўна. Яны ж дагэтуль забіваюць адно аднаго, не могуць жыць у радасці ды сяброўстве.

Надышоў час развітацца, і яны развіталіся з трывогай за сваё будучае. Бог не толькі ўсё бачыць, але і ўсё чуе. Навёў ён чалавека на думку знайсці спосаб дапамагчы Аўтобусу, Ліфту і Насценнаму Гадзінніку. І чалавек — ён жа па сутнасці сваёй добры і вынаходлівы! — знайшоў кожнаму паратунак ад старасці і адзіноты.

Старэнькі Аўтобус, які ўжо не меў сіл вазіць пасажыраў, адмовіліся здаць у металалом, а памылі, пафарбавалі наноў і ўсталявалі ў двары аўтапарка на невялікі п'едэстал. Цяпер шафёры, выпраўляючыся ў рэйсы на навюткіх аўтобусах, затрымліваліся на хвілінку-дзве ля свайго старога «сябра-памочніка» і з хваляваннем успаміналі маладосць. У тым доме, дзе працаваў Ліфт, жыў, як высветлілася, славуты архітэктар. Згодна з яго праектам, у горадзе пабудавалі прыгожы, высокі гмах. Архітэктар не жадаў развітвацца са сваім Ліфтам і знайшоў яму месца ў новым будынку. У Ліфце абнавілі абсталяванне, паставілі шкляныя дзверы, і цяпер ён вазіў на дваццаць пяты паверх, у кавярню смятанку, марожанае, мінеральную ваду, сокі. Як жа ён узрадаваўся, калі з вышыні ўпершыню ўбачыў свой прыгожы горад: ратушу, царкву, касцёл, бібліятэку, тэатры, праспекты, Свіслач… Ён адразу палюбіў горад і быў бязмежна ўдзячны архітэктару. А што ж з Насценным Гадзіннікам? Старэнькі паэт перад пераездам у дом ветэранаў перадаў яго ў гарадскі музей. Гадзіннік павесілі ля акна. У гэтым музеі ён быў самы стары, яму споўнілася ўжо сто гадоў. Узрадавалася і зязюля на цыферблаце. Усе наведвальнікі музея з планшэтамі ды сотавымі тэлефонамі, з навушнікамі ды відэакамерамі заўсёды спыняліся ля гадзінніка, каб паслухаць яе «ку-ку».

Вось такая гісторыя здарылася ў нашым горадзе. Хочаце — верце, хочаце — не. Я ж расказаў вам яе і нават не прашу ў падзяку цукеркі.

Лілія ГРЫШАНАВА



# Жу-жу

Быў пачатак восені. Цёплы верасень стаяў за акном сонечнай аўдыторыі, у якой другі тыдзень за партамі сядзелі дзяўчынкі і чатыры хлопчыкі: тры Колі і адзін Пеця.

Дзяўчынкам было па пятнаццаць-шаснаццаць гадоў, і толькі адной з іх, самай прыгожай і спакойнай, якая паспела ўжо выйсці замуж, — пабольш. Астатнія, падобныя да летніх стракоз, упершыню сур'ёзна задумаліся пра сваё будучае дарослае жыццё. Настолькі сур'ёзна, што сядзелі за партамі стаіўшы дыханне і слухалі ўсё, што распавядалі выкладчыкі, якія здаваліся ім вельмі разумнымі: тое, пра што казалі педагогі, было новым і цікавым. Аднак такая ўвага была нядоўгай — толькі ў першым семестры, дакладней, да першай сесіі.

Жах і страх першых экзаменаў перажылі ўсе, а пасля вакацый вучні сядзелі за партамі з тварыкамі, якія ззялі ад усмешак. Але выкладчыкі чамусьці сталі здавацца дурнейшымі і занудлівейшымі, а іх «гаварыльня» ўжо не была такой цікавай.

Хлопчыкі тым часам падлічылі, што на кожнага прыходзіцца па сем дзяўчынак і наўрад ці яшчэ калі-небудзь у жыцці так пашанцуе. З тых часоў вучоба адышла на другі план.

А дзяўчынкі нядоўга журыліся з-за недасягальных «цудоўнай чацвёркі». Вельмі хутка яны, не дабягаючы да свайго чацвёртага паверха, перад непасільным вучэбным днём спыняліся перадыхнуць на трэцім, дзе сабралася шмат хлопчыкаў, у якіх не хапала смеласці падняцца на паверх вышэй.

Віск і смех на перапынках «перасяліліся» на ніжнія паверхі, а на чацвёртым засталося чацвёра хлопчыкаў — тры Колі і адзін Пеця, — па паводзінах якіх было відавочна: яны задаволеныя, што гэтая стракатая хмара дзяўчынак, якая кружыла ім галовы, паменшылася і вакол стала нашмат цішэй і спакайней. Яны ўздыхалі з палёгкай, бо побач стала менш прыгажосці, да якой яны не ведалі як падступіцца.

Да вясны дзяўчынкі знайшлі-такі сваіх хлопчыкаў, а хлопчыкі — дзяўчынак. На занятку і тыя, і іншыя цяпер прыходзілі не толькі па веды, але і каб убачыць адно аднаго. Выкладчыкі цяпер былі для іх альбо сябрамі, альбо ворагамі — гледзячы якіх адзнак не шкадавалі.

***

Аднак вернемся ў цёплы восеньскі дзень, да чатырох хлопчыкаў і тады яшчэ сціплых і ціхіх дзяўчынак, якіх было нашмат больш.

Выкладчык Алег Пятровіч з гонарам ад таго, што ўсе слухаюць яго раскрыўшы рот, дырыжыруе каля дошкі ўказкай і гаворыць ціха, абсалютна ўпэўнены, што яго ўсе разумеюць. На самай справе разумелі яго, магчыма, і не ўсе, але гэта быў толькі пачатак другога семестра, таму ніхто не адважваўся вымавіць ні слова.

У гэтай цішыні можна было б пачуць нават палёт мухі. І вось тут усё і адбылося.

За трэцяй партай каля акна сядзелі дзве дзяўчынкі. Адна з іх была прыгажуняй з шыкоўнай чорнай касой. Другая, светлавалосая, не магла пахваліцца сваёй пшанічнай коскай, але па знешнасці не саступала цёмнавалосай суседцы. Яны абедзве так прыгрэліся на сонейку, што ледзь-ледзь не заснулі пад спакойную гаворку Алега Пятровіча. А калі б і заснулі, ён зрабіў бы выгляд, што не заўважыў, тым больш амаль усе дзяўчынкі, якія сядзелі каля акна, ужо спалі. І таму Алег Пятровіч стаў гаварыць яшчэ цішэй.

Вытанчаную цішыню парушыла пяшчотнае гудзенне, якое спачатку даносілася здалёк, а потым стала набліжацца. Нарэшце яго выразна пачулі тыя, хто не спаў.

Дзяўчынкі, якія з усіх сіл стараліся не заснуць, не звярталі ўвагі на гудзенне. У іх нават не было сіл павярнуць галаву ў той бок, адкуль яно даносілася. А «жу-жу» станавілася ўсё бліжэй і бліжэй, смялей і смялей. У выніку яно аказалася зусім побач з трэцяй партай каля акна — дакладней, са светлавалосай дзяўчынкай.

На самай справе «жу-жу» было вельмі жвавай пчолкай, якая адчайна білася ў зачыненае акно. Дзяўчынка вырашыла дапамагчы ёй выбрацца на волю. Не задумваючыся пра наступствы, дастала з кішэні прыгожую насовачку і акуратна стала паляваць за бяскрыўднай на першы погляд пчолкай. А няшчаснае насякомае так білася ў шкло, што нічога не заўважала вакол. Але зброя абароны ў пчалы заўсёды напагатове.

Дзяўчынка злавіла «жу-жу» насоўкай за крылцы і ўжо падносіла да форткі. У гэты самы момант пчолка па-здрадніцку ўкусіла сваю ратаўніцу.

Цішыню класа парушыў пранізлівы віск, які ўзмацняўся з кожнай секундай, таму што цяпер крычала не толькі светлавалосая, але і ўвесь шэраг дзяўчынак, якія, натуральна, імгненна прачнуліся.

Цёмнавалосая дзяўчынка з раскошнай касой чамусьці апынулася на падлозе. Пеця, які сядзеў за першай партай каля дзвярэй, выбег з класа ў калідор. Адным словам, у класе пачаўся жудасны перапалох. А светлавалосая дзяўчынка ўсё яшчэ трымала пчолку ў руках і ўжо не крычала, а плакала ад болю і жалю да самой сябе.

Алег Пятровіч умомант зразумеў, што адбылося. Ён падышоў да светлавалосай пакутніцы, выпусціў закатаваную «жу-жу» на волю, а насоўкай выцер дзяўчынцы слёзы.

Усе перасталі шумець і кінуліся да Алега Пятровіча, які сам ужо плакаў ад смеху.

**Пераклала з рускай мовы Яна ЯВІЧ**

# Смех скрозь слёзы,
## або Жыццё ў святле шматгранніка

**Дазволім сабе дзікую літаратурную фантазію. Напрыклад: што, калі Віктар Шніп нейкім чынам даводзіцца родзічам Антуану дэ Сэнт-Экзюперы? Ну, а што: усведамленне сябе хай нязначнай, і ўсё ж патрэбнай драбніцай у гэтым свеце ёсць. Вялікая гуманнасць, гэта значыць любоў да чалавека пры ясным бачанні ўсіх яго заган, таксама ёсць. Самаіронія? І самаіронія.**

Тым больш што ў кнізе «Заўтра была адліга» спадар Віктар ці то жартам, ці то сур'ёзна згадвае, што яго далёкага продка звалі ці то Жанам, ці то Жакам.

Жарты жартамі, але згаданая кніга — «дзённікавы раман паэта», як вызначыў яго сам аўтар, з паэтычнаю сарцавінай (што літаральна значыць «вершы ўсярэдзіне кнігі») — нязменна наводзіць на думкі пра «Планету людзей».

І хоць «Заўтра была адліга» — збор дзённікавых запісаў, галоўны герой тут далёка не сам аўтар. Галоўны герой — зборны, і складаюць яго: будаўнікі, што рыюцца ў катлаване на месцы філфакаўскага інтэрната; малая радзіма з хатай, што «склала рукі на грудзях замком»; чарада аўтараў, як той казаў, «добрых і розных»; пісьменнікі-сябры і пісьменнікі-знаёмцы, што прыходзяць са сваімі радасцямі і бедамі; сям'я — прычым Людміла Рублеўская з вядомай пісьменніцы ператвараецца амаль што ў «проста жонку» (амаль што — бо ўсё ж такі часам В. Шніп паведамляе: быў на прэзентацыі Людмілінай кнігі).

Але мы забыліся на самае галоўнае.

Першы запіс у кнізе — ад 1.01.2013: «Упершыню за апошнія чатыры гады мама і тата Новы год сустрэлі разам — на Ракаўскіх могілках...».

Бацькі як аснова сусвету аўтара і страта гэтай асновы — вось лейтматыў кнігі. Паўсюль, ледзьве не ў кожнай нататцы, можна сустрэць след гэтай згубы. Часам В. Шніп піша наўпрост: «Яшчэ ўсё палохаюся тэлефанаванняў, бо здаецца, што мне скажуць: "Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр..."».

Але часцей гэты настрой перадаецца ўскосна, праз адлюстраванне штодзённых рэчаў. На мінскія гмахі аўтар глядзіць вачыма вясковых бацькоў. На першую вясну без іх — іх жа вачыма. Старыя, якіх сустракае штодзень, — працяг ці адлюстраванне мамы і таты. І нават дзеці — гэта сам аўтар, колішні, той, якога гадавалі мама, яшчэ не знямоганая працай, і тата, яшчэ дужы і вялікі.

Цікава, што пра адчуванне сябе дзіцём В. Шніп сам не раз згадвае. Прыкладам, на моры ён купаецца, «як дзіця, якое засталося без бацькоўскага нагляду».

Гэта — адзін бок твора, у якім аўтар паўстае сынам, дзіцём. Іншы бок шматгранніка — свет з пункту гледжання творцы. Выяўляецца ён як праз непасрэднае ўражанне, так і праз твор — верш ці нават адзін радок, маленькую замалёўку, у якой, дарэчы, паэзіі можа быць больш, чым у іншым вершы. Гэта багоўкі, што грэюцца на сонцы, а насамрэч — чырвоныя каскі будаўнікоў. Гэта мора, на якое глядзяць захінутыя ў пледы турысты, — і вось ён, тэатр аднаго акцёра. Роздум, да якога В. Шніпа падштурхнула ўсё тая ж вялікая страта: «Нараджаемся




і жывём, каб пахаваць тых, хто памрэ раней за нас...». Ці іншае: «...людзі загараюць, нібы масоўка для фільма пра будучую рэвалюцыю». «Заўтра была адліга» — кніга з тых, якія чытаць лепей з сябрам, каб можна было сказаць «паслухай, што піша...».

Пэўна, час зазначыць, што нататкі гэтыя не стануць адкрыццём для карыстальнікаў *Facebook* і сяброў Віктара Шніпа ў названай сетцы. Можна запытацца: нашто ўвогуле было выдаваць кнігу запісаў, якія мог прачытаць усякі, каго цікавіць асоба аўтара?.. Дарэчы, пасля выхаду «Пугачоўскага цырульніка» і сам В. Шніп задаваўся гэтым пытаннем.

Між тым кніга не проста мае права на жыццё — яна патрэбная (зноў жа, як і «Пугачоўскі цырульнік»). Штодзённае заўжды здаецца дробязным, і немагчыма фіксаваць увагу на ўсякай падзеі, з'яве, уражанні. В. Шніп як чалавек з асаблівым поглядам на свет (зрэшты, у кожнага з нас ён асаблівы) метадычна (інакш не скажаш) выкладаў менавіта штодзённае, якое здаецца другарадным.

Калі ўсе нататкі сабраліся пад адной вокладкай, мы атрымалі зрэз жыцця. Пры гэтым адрозненне ад класічных мемуараў відавочнае. Узяць хоць бы і той факт, што большасць персанажаў, якія фігуруюць у кнізе, яшчэ жывыя. Гэта дадае апублікаваным дзённікам пэўную пікантнасць, праз што і пераймаецца час ад часу аўтар — не хаваючы страху ад чытача, але і не робячы яго нейкай позай, какецтвам.

Вялікая каштоўнасць — магчымасць убачыць жыццё цэласным. У рэальнасці, якую апісвае В. Шніп, шмат сумнага. Але ёсць і смех. Прычым смех гэты не зрываецца з грэбліва выгнутых вуснаў сноба: ён добры, хоць і ўчэпісты, па-сялянску бязлітасны. І ў гэтым смеху ажываюць бацькі спадара Віктара: мы падсвядома адчуваем, што яны пасмяяліся б з таго ж, на што звяртае ўвагу іх сын.

Часам усмешка аўтара прыхаваная: «Цікавая еўрапейская паэзія. Цяпер і ў нас так пішуць». І тым больш яна каштоўная.

Між тым, пішучы пра сям'ю, В. Шніп не спыняецца на бацьках. Пераступаючы мяжу асабістага, ён дзеліцца з чытачом ведамі пра свой род. Каштоўнасць гэтых запісаў інакшая: як у класічных сагах, праз лёс роду прасочваецца лёс краіны. Вядома, у нашым выпадку маштаб агледзін непараўнальна меншы, але сутнасць тая ж.

Пісьменнік не мог не напісаць пра пісьменнікаў, асабліва калі праца яго звязаная непасрэдна з імі. Тут нататкі носяць часцей за ўсё яўнае іранічнае адценне, праз якое няцяжка зразумець і стаўленне аўтара да самога сябе. «Стары пісьменнік хваліцца ўзнагародамі, як дзіця цацкамі», — карціна знаёмая, ці не так? «"Наш свет мы зляпілі з газет, дзе літары — чорныя ніткі" — напісаў, а далей не захацелася...» — і нядзіўна, што не захацелася. Ёсць і літаратурнае бачанне свету, а лепей сказаць, праекцыя кніжных архетыпаў на жыццё: «У катлаване на месцы інтэрната філфака БДУ ў тарфяной жыжы корпаюцца будаўнікі, як мележаўскія людзі на балоце...». Гэтыя будаўнікі, да слова, даволі часта з'яўляюцца на старонках кнігі. З аднаго боку, з песні слоў не выкінеш. З іншага — някепскі сімвал, якім грэх было б не скарыстацца.

Дарэчы, такі вось бытавы сімвалізм, — адметнасць кнігі. «Калі памёр мой дзед, плуг забраў сабе мой бацька. Калі памёр мой бацька, плуг забралі невядомыя мне людзі...» — піша В. Шніп, і вы ловіце сябе на думцы, што цудоўны быў бы пачатак для буйнога празаічнага твора. Іншым разам ён распавядае, як шукаў у Паланзе бурштын, а знайшоў жывога каларадскага жука. І вы разумееце, чаму Андрэй Федарэнка (калі верыць В. Шніпу) захапляўся яго нататкамі пра адпачынак у Паланзе. Яны сапраўды ўспрымаюцца як асобны раздзел кнігі, міні-раман у дзённікавым рамане.

Анатацыя зазначае: «Чытаючы кнігу, нехта скажа: "Тут вельмі шмат самоты!" Так. У жыцці стае самоты [...] І ўсё ж аўтар гэтай кнігі аптыміст, і ў яго ёсць пачуццё гумару і самаіроніі і ўменне пабачыць у звычайных дэталях быцця прыгажосць і філасофскі сэнс, і сваімі творамі ён сцвярджае: "Усё будзе добра!"

Вось і ўсё, што трэба ведаць пра кнігу «Заўтра была адліга».

**Наста ГРЫШЧУК**

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# Тры прыпынкі да роздуму

**Паэт, празаік і перакладчык. Родам з Арменіі. Піша на рускай, беларускай, армянскай, курдскай мовах. У маладосці лёс закінуў яго ў Беларусь, тут ён скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Так наша краіна стала другой радзімай Ганада Чарказяна.**

У № 9 «Нёмана» надрукаваныя тры яго аповеды пад агульнай назвай «Чалавек з мінулага». Адзін твор называецца «Вірус», другі — аднайменны агульнай назве, трэці — «Швэдар».

Першы аповед паказвае свет з непрыкметнага боку: людзі — карыслівыя істоты, сляпыя да навакольнага свету, ніхто табе не сябар... Шчыры толькі Вірус, які адкрывае на ўсё гэта вочы галоўнаму герою — безыменнаму.

У той жа час аўтар супярэчыць сам сабе, робячы таго самага галоўнага героя чужым да ўсякіх зрухаў у знешнім свеце. Асноўную думку твора можна выказаць адной цытатай: «Усе патрапяць у яму, якую самі выкапалі. На зямлі робіцца цесна, бо ў людзей няма тармазоў...». Што ж, давайце пачуем аўтара і знойдзем-такі свой стоп-рычаг, каб быць шчырым з іншымі жывымі істотамі ды суперажываць не толькі віртуальнаму Вірусу.

Успрыманне дыялогаў у апавяданні абцяжаранае. Так, віртуальны Вірус піша герою смс, што ўжо выглядае, скажам так, сюррэалістычна. Тут жа — занадта грувасткія аўтарскія ўступленні, якія быццам бы і вытлумачваюць дзеянні героя, але разам з тым адцягваюць увагу чытача ўласна ад слоў героя. Не выклікаюць захаплення і паўторы адных і тых жа думак — прычым у неабмежаванай колькасці. Аўтар хацеў паказаць, што людзі — эгаістычныя стварэнні? Гэта можна зразумець з самага пачатку.

Апавяданне «Чалавек з мінулага» вылучаецца цікавай структурай — аповед у аповедзе з мноствам невялічкіх лірычных адступленняў. Перад намі гісторыя чалавека, які жыў сярод чужых і ненавідзеў сваіх. Гэтая замалёўка — пра голад у Арменіі, вынік армяна-грузінскай вайны — той час, калі сітуацыя ў краіне даводзіла людзей нават да канібалізму («А мог стаць вялікім чалавекам, калі б суродзічы не з'елі яго айца»). Прасочваецца думка, што чалавек — істота надзвычай крохкая: вось быў ён і няма. І што засталося? Толькі грудка зямлі.

Які ж тут галоўны аўтарскі заклік? Давайце жыць без войнаў. Давайце перастанем рэзаць адно аднога за кавалак зямлі, бо «зямлі для магіл хопіць усім».

Трэцяе апавяданне — пра армейскае жыццё. Бессэнсоўная праца, абы дагадзіць кіраўніцтву (бо ўсё адно ведаеш: далей прасунуцца па службе немагчыма); развітанне з хлопцамі, якіх чакае «грамадзянка», і адмысловыя падарункі ў дарогу (дзе яшчэ могуць з'явіцца сувеніры з патронаў?). Тут спачатку не ладзіш з калегамі, цішком помсціш нядобразычліўцам, а потым вяртаешся дадому, са смехам згадваючы ўсе гэтыя «помсты» і крыўды.




І ўсё ж, нягледзячы на смех, недавер да чалавека застаецца. Што, напрыклад, калі былы калега абвінаваціць цябе ў крадзяжы?.. Галоўны герой апавядання знаходзіцца ў роздуме: як застацца чыстым перад сваім сумленнем?

У «Швэдары» трапляюцца цікавыя моўныя звароты («сорам, як інфекцыя»), але часам аўтар перагружае тэкст, так што пачынае здавацца: лаканічныя ўстаўкі з горача любімымі Г. Чарказянам працяжнікамі пісаў нехта іншы.

Усе апавяданні аб'ядноўвае адзін матыў: абыякавасць людзей. Абыякавасць да блізкіх, свету, таварышаў па службе. Героі Ганада Чарказяна спыняюцца ў задуменні: што гэты чалавек значыць для мяне? Што ж, даволі неблагі спосаб падштурхнуць чытачоў зрабіць тое ж самае.

**Святлана КУРГАНАВА**

# Дзе шукаць Зельманцаў?

**Кніга пра адзін мінскі двор, на месцы якога збудавалі бісквітную фабрыку. Пасля яе разбурылі. А кніга засталася. Пісьменнік Майсей Кульбак апеў Мінск гэтак жа, як мастак Марк Шагал — Віцебск.**

Сёлета ў межах серыі «Мая Беларуская Кніга», якую ладзіла выдавецтва «Папуры», адбылося вяртанне ў беларускую літаратуру забытага твора — рамана Майсея Кульбака «Зельманцы». Гэтая кніга некалі выклікала зацікаўленасць і ў Мінску, і ў Маскве, але на доўгія гады нібы выпала з поля зроку чытачоў. Нядзіўна: пераклад «Зельманцаў» на беларускую мову, выкананы Віталём Вольскім, перад гэтым выходзіў ажно 55 год таму! Аднак і кніга, і яе аўтар маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі — і раней ці пазней яны мусілі вярнуцца.

Майсей (Мойша) Кульбак нарадзіўся ў 1896 годзе ў Смаргоні. Вучыўся ў ешыве (яўрэйскай вышэйшай школе), пасля настаўнічаў. У 1920-х жыў у Берліне, пасля ў Вільні. У 1927 годзе, з заснаваннем Сусветнага яўрэйскага ПЭН-клуба, быў абраны яго старшынёй. Дэбютаваў у 1916 годзе, пісаў на ідыш. Аўтар шэрагу зборнікаў вершаў, раманаў «Месія сын Эфроіма» (Берлін, 1924) і «Панядзелак» (Варшава, 1926), дзвюх п'ес. Збор твораў пісьменніка ў 1929 годзе быў выдадзены ў Вільні ў трох тамах, а сам ён за год да гэтага, у 1928 годзе, пераехаў у Мінск. Тут М. Кульбак піша раман «Зельманцы», які выходзіць дзвюма кнігамі — у 1931 і 1935 гг.

Менавіта ў Мінску і пра Мінск былі створаны М. Кульбакам адзіны яго твор, перакладзены пасля і на рускую, і на беларускую мовы. Твор, які сёння асацыіруецца з прызабытым іменем свайго аўтара. Ёсць у гэтым пэўны парадокс, бо пісьменнік ніколі раней у Мінску не жыў (не зважаючы на кароткі перыяд у 1918 годзе). Тым не менш за нейкія пару гадоў М. Кульбаку ўдалося напісаць настолькі «мінскую» кнігу, што паспрабуй адшукай аналаг. «Зельманцы» — ці не самы выразны тэкст у літаратуры міжваенных дзесяцігоддзяў, які найбольш поўна перадае тагачасную атмасферу сталіцы БССР.

Дзеянне рамана моцна прывязанае да зямлі — як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Перш за ўсё кніга пра двор роду Зельманаў і пра ягоных насельнікаў, іх побыт, лёсы пакаленняў і сутыкненне традыцый са зменамі. Пад ціскам пераўтварэнняў у грамадстве патрыярхальны лад адступае ў нябыт, пераадольваецца спрадвечная ізаляцыя, адасобленасць: маладыя Зельманцы вучацца ва ўніверсітэце, іх бацькі пацяху аб'ядноўваюцца і становяцца фабрычнымі рабочымі. І ўсётакі горад з яго новабудоўлямі і завадскімі карпусамі застаецца збольшага па-за кадрам. Жыццё віруе ў самім двары, які стаіць сабе недзе ў адным з гарадскіх прадмесцяў — камяніца і два шэрагі драўляных хатак.

> *«Зельманцы» — ці не самы выразны тэкст у літаратуры міжваенных дзесяцігоддзяў, які найбольш поўна перадае тагачасную атмасферу сталіцы БССР.*




Важнае краязнаўчае ўдакладненне: М. Кульбак «будуе» свой Зельманаўскі двор у канкрэтным раёне горада «Энска», на які ў тэксце ўказвае шэраг прыкмет. Самая яскравая — напрыканцы кнігі: на месцы двара паўстае адзін з карпусоў добра знаёмай мінчанам фабрыкі «Камунарка». Многія чытачы, такім чынам, паспешліва запісалі Зельманцаў у жыхары Ляхаўкі альбо Трох Корчмаў, як раней называліся мясціны ў пачатку Партызанскага праспекта. Варта, аднак, прыгадаць, што яшчэ гадоў з дваццаць таму ў лукавіне Свіслачы на Камуністычнай вуліцы стаяла бісквітная фабрыка, якая ў 1929 годзе была адкрытая як цэх «Камунаркі» — акурат на яе месцы і знаходзіўся Зельманскі двор.

Асноўныя рысы стылю М. Кульбака — іронія і гратэск. Ці не кожнаму чытачу яшчэ ад першых старонак западзе ў памяць кантрасная, трагічная сцэна: адна з Зельманцаў, цёця Геся, недарэчна загінула пад абстрэлам у Мінску часоў Першай сусветнай вайны, а над целам яе «стаяла курыца і філасофствавала». Гэтае ўражанне моўнага сюррэалізму не адпускае да канца кнігі. Аўтар, безумоўна, імкнуўся стварыць у пэўнай ступені злабадзённы твор, паказваючы капітуляцыю старога двара перад дзівосамі новага часу — радыё, электрычнасцю, трамваем. Але і даніну павагі новым павевам М. Кульбак выявіў тымі самымі іранічнымі сродкамі — у выніку маладыя камсамольцы, носьбіты новай ідэалогіі, паўстаюць у творы наіўнымі і нават няўклюднымі. Прадстаўнік улады, малапісьменны міліцыянер Бера Хвост, болей есць, чым гаворыць, а галоўны тэхнік-наватар Фалк са смехам выслухоўвае скаргі сваякоў на тое, што ім на ўскраіну даюць горшую электрычнасць — тую, што застаецца «на дне катла». І за «дзіўнаватую» мову, і за ідэалагічную нявытрыманасць першую частку кнігі крытыка сустрэла непрыхільна. Другую частку аўтар пісаў, імкнучыся неяк выправіцца, што не пайшло ёй на карысць. Заканчваецца раман маральнай і матэрыяльнай паразай традыцыі: малады даследчык старадаўніх кніг Цалел здзяйсняе самагубства, патрыярх роду дзядзька Фоля ідзе пад суд за крадзеж з фабрыкі, а сам Зельманаўскі двор руйнуюць.

Перакладчыца рамана на рускую мову, Рахіль Баўмволь, кажа пра М. Кульбака: «У яго асаблівы гумар. У ім адначасова іронія і дабрыня, бясконцая дабрыня да сваіх персанажаў, якая, аднак, не замінае бачыць часам іх камічнасць і недарэчнасць, нават адсталасць і тупасць. Ён глядзіць на іх, як бацька — на глупства і няўклюднасць сваіх дзяцей».

Яшчэ 12 жніўня 1934 г. у спецпаведамленні сакрэтна-палітычнага аддзела ГУДБ НКУС СССР «О ходе подготовки к I Всесоюзному съезду Союза советских писателей» пра пісьменніка паведамлялася: «Прибыл в 1928 г. нелегально из Польши в БССР. Будучи в Польше, состоял заместителем председателя национал-фашистской еврейской литературной организации. Группирует вокруг себя националистически настроенных еврейских писателей, выходцев из социально чуждой среды, имеющих связи с заграницей». 11 верасня 1937 года М. Кульбак быў арыштаваны, 28 кастрычніка 1937 года асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Суд доўжыўся 15 хвілін, пісьменнік быў абвінавачаны па пяці расстрэльных артыкулах, але не прызнаў сябе вінаватым. На наступны дзень яго расстралялі — разам з яшчэ двума дзясяткамі найлепшых літаратараў тагачаснай Беларусі.

> *Майсей Кульбак імкнуўся стварыць у пэўнай ступені злабадзённы твор, паказваючы капітуляцыю старога двара перад дзівосамі новага часу — радыё, электрычнасцю, трамваем. Але і даніну павагі новым павевам ён выявіў іранічнымі сродкамі.*

Цяпер часта ўзнікаюць спрэчкі: ці маюць дачыненне да беларускай літаратуры творы, напісаныя ў Беларусі не па-беларуску? Творчасць Майсея Кульбака і «Зельманцы» ў прыватнасці сваім існаваннем паказваюць: маюць! Нам бы толькі не забыць тых галасоў і слоў, якімі размаўляў Мінск яшчэ гадоў восемдзесят таму.

**Антон РУДАК**

# Аднойчы ў палескім Макондa

**«З цеплынёй, пяшчотай і сынавай любоўю Расціслаў Бензярук у рамане «Векавая груша за акном», аповесці і апавяданнях расказвае пра свой край і блізкіх сэрцу людзей. Аўтар праз непаўторнасць палескіх краявідаў і трапнасць жывапіснай дэталі стварае карціну роднай зямлі, гаворыць пра тое, што глыбока засела ў памяці, не сцерлася з гадамі, пастаянна хвалявала і хвалюе».**

Ці сталі б вы набываць і чытаць кнігу з такой анатацыяй? Хутчэй за ўсё — не. Прыгажосць роднага краю апявае кожны пісьменнік ад таго моманту, як з'явілася беларуская літаратура. Яшчэ з часоў Багушэвіча вобраз занядбанага мужыка-беларуса проста ўрос у творы мастацкай літаратуры, і да сёння многія пісьменнікі не могуць ад яго пазбавіцца. «Нічога новага», — можна падумаць, калі прачытаеш гэтую анатацыю да кнігі Расціслава Бензерука «Дуб і жалуды», але гэта будзе павярхоўнае і памылковае меркаванне. Разгарніце выданне на любой старонцы і прабяжыце хаця б некалькі абзацаў — творы вартыя ўвагі!

Кнігу ўмоўна можна падзяліць на дзве часткі: першая — раман «Векавая груша за акном», другая — «Палескі "Дэкамерон"». Апошняя складаецца з аповесці «Дуб і жалуды», якая дала назву ўсяму выданню, і нізкі апавяданняў. Нельга вызначыцца, што лепш удалося аўтару: сімвалічны раман, які распавядае гісторыю пра цяжкі лёс адной вялікай сям'і, ці ўсё-такі малая проза. Лягчэй за ўсё чытаюцца апавяданні — яркія, дынамічныя, вобразныя. Творы ж вялікіх жанраў здаюцца крыху зацягнутымі, складваецца ўражанне, што аўтар стаміўся і пачынае губляць сюжэтную лінію, таму раман і аповесць, на мой погляд, атрымаліся няроўнымі і «непрычасанымі». Але трапныя і лаканічныя лірычныя адступленні выратоўваюць сітуацыю і, па шчырасці, вельмі кранаюць: «Зараз, абапіраючыся на шурпаты ствол грушы, Юлька адчуў, што дрэва нібы выцягвала пякучы боль, лячыла. Яно многа ведала пра гэтыя мясціны, пра людзей. Яны сустрэліся ў маладыя гады — чалавек і дрэва…»

Самае яркае, што прываблівае ў творах Расціслава Бензерука — мова і валоданне словам. Гэта далёка не ідэальны тэкст — сустракаюцца і русізмы, і жаргонная лексіка, і прастамоўі, — але ён жывы! Дзякуючы пэўным недасканалым словам, парушэнням літаратурных норм, абсалютна выразна вымалёўваюцца вобразы персанажаў, краявіды палескай зямлі, прасочваецца ўнікальны і самабытны стыль Бензерука. Яркая і сакавітая мова адцягвае ўвагу ад тэматыкі, асветленай асабліва шырока ў савецкай літаратуры — калектывізацыя, вайна, цяжкасці і галеча. Але Расціславу Мацвеевічу ўдаецца распавесці пра даўно напісанае вельмі шчыра і лірычна, без надрыву і выкліку, з тонкай іроніяй і цудоўным гумарам, які часам вымушае смяяцца ад душы, а іншым разам пакідае лёгкі сум. Ёсць і зусім невясёлыя ўрыўкі: « — Не хвалюйцеся, дзядзька Юлька: гэта ж нічыя зямля!.. <…> У вайну за сувязь з партызанамі сям'ю Вінцюся Федчыка немцы расстралялі. Пазней родзічы здавалі яго палеткі абрабляць струганскім мужыкам, забіраючы трэцюю частку ўраджаю. Зараз, і праўда, зямля была нічыя, а дакладней — калгасная».

У рамане «Векавая груша за акном» ёсць нешта ад «Ста гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсія Маркеса. Вёска Струганка — гэткі палескі Макондa, а сям'я Пратасеняў — род Буэндзія. Толькі калі ў дынастыі з рамана Маркеса ракавая загана — адзінота, то на долю сямейства Пратасеняў выпала нямала страшэнных няшчасцяў: вайна, калектывізацыя, зайздрасць і здрада блізкіх людзей. Як і ў Маркеса, у рамане Расціслава Бензерука два цэнтральныя сімвалы — дом і дрэва: героі «Сто гадоў адзіноты» шукаюць суцяшэння ў каштана, а ў беларускай гісторыі — у дзікай грушы (тут яшчэ можна правесці алюзіі да Коласавай трылогіі «На ростанях», але гаворка не пра тое). Ды і фіналы раманаў Бензерука і Маркеса вельмі падобныя: сямейнае гняздо разбурана, з усяго роду застаецца толькі адзін прадстаўнік. Праўда, Расціслаў Мацвеевіч больш аптымістычны — яго раман заканчваецца вельмі жыццесцвярджальна: «Часам, калі выпадае ехаць з Ракітніцы да Старога Сяла, Павел глядзіць управа, бачыць апошнюю хату і адзінокую грушу. Ён ведае, што ў хаты — толькі абалонка, а ўнутры ўсё пераломана,ператрушчана, знішчана. Груша стаіць горда, каронай кранаючы нізкія абокі. <…> Векавечную грушу Павел Вярбіцкі лічыць заступніцай зямлі гэтай. Яна — сімвал сілы і непакорнасці: яе не змаглі знішчыць ні стыхіі, ні людзі. У такія хвіліны Павел абавязкова кажа сам сабе: «Дзякуй табе, зямля мая, што нарадзіла і выхавала! Нізкі паклон вам, людзі — мае землякі…»

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Стварацьадданым сэрцам

**Пасля сёлетняга Дня беларускага пісьменства па запрашэнні ўлад і старшыні Саюза пісьменнікаў Дагестана мне пашчасціла ўдзельнічаць у Міжнародным паэтычным фестывалі «Белыя жураўлі», заснаваным яшчэ Расулам Гамзатавым. Колькі цудоўных слоў пра нашу Радзіму, колькі светлай зайздрасці і захаплення Беларуссю з вуснаў многіх знакамітых паэтаў, дзеячаў культуры прагучала і ў Тэатры паэзіі, і ў доме Расула Гамзатава, і на высокіх прыёмах, і на плошчах падчас выступленняў, і ў прыватных размовах!**

Часам ад некаторых людзей, нават асобных літаратараў, даводзіцца чуць, што мастацкі твор не варта разглядаць як аргумент выхавання, маральнага ўздзеяння. А пісьменнік, маўляў, не павінен ставіць перад сабой задачу выхоўваць чытача творамі. Ні ў якім разе не магу пагадзіцца з гэтым! Сапраўдная літаратура, сапраўдны пісьменнік якраз і закліканы паказваць чытачу духоўныя арыенціры, спрыяць фарміраванню светапогляду, выхоўваць любоў да Радзімы, роднага краю, абуджаць самыя прыгожыя пачуцці. Місія высокага мастацкага слова запатрабаваная і сёння, калі на чалавецтва насоўваецца нямала заганнага, шкоднага, хлусліваага, жорсткага.

Мы 70 гадоў жывём у мірнай краіне, больш за 20 з іх — у суверэннай Беларусі. Няма ў нас такой сям'і, па якой бы ні прайшлася вогненна-смяртэльным колам Вялікая Айчынная вайна. Мы страцілі кожнага трэцяга ў барацьбе з фашызмам. Невыпадкова ва ўсім свеце людзі добрай волі шануюць Беларусь — краіну ствараьнай працы і міралюбных памкненняў, «Краіну-бранaчку», як сказаў у свой час адзін з самых сумленных яе сыноў, класік нашай літаратуры Максім Багдановіч.

Невыпадкова адна з магістральных тэм нашай літаратуры — Вялікая Айчынная вайна, абароны роднай зямлі, змагання за вызваленне, патрыятызму. Гэтым і вызначаецца наша класічная літаратура. Прыгадаем хаця б творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі, Янкі Сіпакова, Івана Навікава… У апошнія гады ў Беларусі выходзіць нямала ваенна-патрыятычнай літаратуры, і яна, на шчасце, запатрабаваная школай, грамадствам. Такую кнігу выпускаюць розныя выдавецтвы. І гэта вельмі добра: нам патрэбна перадаваць з пакалення ў пакаленне любоў да Радзімы, павагу да нашай гісторыі, пашану да ветэранаў вайны і працы, захоўваць пераемнасць пакаленняў. Шмат робіць у гэтым кірунку нашы літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні, выдавецтвы: «Мастацкая літаратура», «Беларусь», «Выдавецкі дом "Звязда"», выдавецтва «Чатыры чвэрці»… Апошняе выпускае сацыяльна значную кніжную серыю «Дзеці вайны». Выйшла ўжо два дзясяткі кніжак, дзе нашы вядомыя пісьменнікі выступаюць з творамі пра вайну, якую бачылі на дзіцячыя вочы. Адыходзяць, на вялікі жаль, пісьменнікі — удзельнікі вайны, але іх творчую эстафету годна падхапілі дзеці вайны. Гэтая кніжная серыя выдатна працягвае герaічны летапіс нашага народа і працуе на выхаванне юнага пакалення. Апошнім часам з'явіліся вельмі важныя кнігі ваенна-патрыятычнай тэматыкі, як, напрыклад, эпахальная серыя раманаў вядомага вучонага і празаіка, акадэміка НАН Беларусі Уладзіміра Гніламёдава «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы», «Вайна». Пра мужнасць нашых салдат у гады Першай сусветнай вайны хораша расказаў у сваіх кнігах «Героі Першай сусветнай», «У імя памяці святой», «Палкаводцы і военачальнікі Першай сусветнай» празаік і тэлежурналіст Вячаслаў Бандарэнка. Да апошніх дзён плённа пра гераізм савецкіх людзей пісаў адзін з выбітных пісьменнікаў старэйшага пакалення, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі. Яго раманы «Обаль», «Пісьмо ў рай» працягваюць лепшыя традыцыі класічнай літаратуры. Выдатныя водгукі літаратуразнаўцаў і чытачоў атрымаў новы раман Мікалая Чаргінца «Аперацыя «Кроў», які даказвае, што тэма Вялікай Айчыннай яшчэ не вычарпана.

> *Сапраўдны пісьменнік павінен быць грамадзянінам, патрыётам роднай краіны, свайго народа. А гэта значыць паважаць яго выбар, жыць яго спадзяваннямі і памкненнямі, адлюстроўваць яго інтарэсы і прыярытэты.*

Шмат гадоў у патрыятычнай літаратуры працуе пісьменнік і журналіст Міхаіл Шыманскі. У апошнія гады ён выпусціў тры тамы мастацкіх нарысаў пра герояў вайны «Мы гэтай памяці верныя», «Пабрацімы», «Дзякуй, салдат, за Перамогу!» Гэта своеасаблівая мастацкая энцыклапедыя мужнасці нашага народа. Публіцыст Валерый Ярмоленка ў кнізе «Асы-беларусы» расказаў пра беларускіх лётчыкаў — Герояў Савецкага Саюза. Былы марскі афіцэр Валерый Чудаў у сваіх творах узнаўляе нашу марскую славу.

Не абыходзяць ваенна-патрыятычнай тэматыкі і юныя літаратары. Напярэдадні 70-годдзя Вялікай Перамогі Мінскае гарадское аддзяленне СПБ правяло два вялікія творчыя конкурсы сярод старшакласнікаў гарадскіх школ і студэнтаў ВНУ пад назвай «Гэта наша з табой Перамога» і сярод студэнтаў трынаццаці факультэтаў Белдзяржуніверсітэта (сумесна з Фундаментальнай бібліятэкай БДУ) — пад назвай «Славянскі калейдаскоп». Выявілі дзясяткі юных здольных літаратараў. Творы лаўрэатаў першага конкурсу мы выдалі ў зборніку пад аднайменнай назвай у кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы». Другі конкурс адкрыў юную паэтэсу Тацццяну Купрыянец, якая піша ў асноўным на ваенна-патрыятычную тэму, і даволі ўдала. На «круглым стале» ў бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў ветэран Вялікай Айчыннай вайны, член СПБ паэт Мікалай Іваноў пад уражаннем ад вершаў юнай паэтэсы не змог стрымаць слёз… Ад сталічнага аддзялення Т. Купрыянец сёлета ўдзельнічала ў Рэспубліканскім конкурсе маладых паэтаў Беларусі (г. Брэст) і стала яго пераможцай у намінацыі «Што помніць выратаваны свет?» Сёлета ж у кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы» выйшла з друку і першая кніжка вершаў Тацццяны «Водгукі памяці».

Прыемна адкрываць здольных юнакоў. Ствараем для іх творчыя клубы, літаратурныя аб'яднанні, студыі юных літаратараў.

Апрача значнай дзяржаўнай падтрымкі патрыятычнай, сацыяльна значнай літаратуры з боку Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, адметную ўвагу аказвае сёння і Міністэрства абароны. На працягу васьмі гадоў пры часопісе «Армія» створаны і выдаецца альманах «Армія і Культура». Рыхтуюцца два выпускі на год, друкуюцца творы вядомых сучасных паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, а таксама мастакоў. Пры Цэнтральным Доме афіцэраў працуюць літаб'яднанне «Доблесць» і Студыя ваенных пісьменнікаў, якія ўзначальвае вядомы паэт, празаік і крытык Яўген Каршукоў. Сумесна з Міністэрствам абароны праводзім творчыя конкурсы, літаратурныя вечары, святы. Наведалі вайсковыя часці, выступалі ў Доме афіцэраў, у Ваеннай акадэміі. Многія нашы пісьменнікі — лаўрэаты прэміі міністра абароны Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры і мастацтва. Ганаруся, што тройчы лаўрэатам гэтай прэміі з'яўляюся і я.



Пры падтрымцы Міністэрства абароны Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і Студыя ваенных пісьменнікаў рыхтуюць і выдаюць калектыўныя зборнікі ваенна-патрыятычнай літаратуры. Сярод іх — «Мы ахоўваем цябе, Беларусь», вершы сучасных беларускіх паэтаў; «На варце Айчыны», вершы, апавяданні і нарысы сучасных беларускіх пісьменнікаў; «Вялікай Перамозе верныя», вершы паэтаў — членаў літаратурнага аб'яднання «Доблесць», якое сёлета адзначыла 60-гадовы юбілей.

Плённа супрацоўнічаем з пісьменнікамі іншых краін. Так, сумесна з Цюменскай абласной пісьменніцкай арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Расіі ажыццявілі кніжны праект «Пераможцы» — да 70-годдзя Перамогі: выдалі ў Цюмені і Мінску зборнік паэзіі, прозы і публіцыстыкі пісьменнікаў Мінска і Цюмені, дзе прадстаўлены творы ваенна-патрыятычнай тэматыкі 54 аўтараў. Ажыццявіць такі аб'ёмны праект дапамог Ганаровы генеральны консул Беларусі ў Цюмені Уладзімір Шугля (дарэчы, ён сам піша кнігі і з'яўляецца членам СПБ). Згадаю і сумесны двухмоўны зборнік беларускіх і расійскіх паэтаў «Непадзельнае рэчышча», што пабачыў свет у Санкт-Пецярбургу. У кнігу ўвайшлі вершы 93 аўтараў, 41 з іх — прадстаўнікі нашай краіны. Прэзентацыі гэтых выданняў з удзелам пісьменнікаў Беларусі і Расіі прайшлі як у Мінску, так і ў Цюмені ды Санкт-Пецярбургу. Такое супрацоўніцтва пашыраецца. Наперадзе новыя цікавыя сумесныя праекты з пісьменніцкімі арганізацыямі Расіі, іншых краін.

Штогод члены СПБ выдаюць звыш 200 назваў кніг, многія з іх сацыяльна значныя і выходзяць дзякуючы дзяржаўнаму фінансаванню.

Мы праводзім яшчэ і вялікую культурна-асветніцкую работу — у школах, бібліятэках, музеях, іншых установах і арганізацыях. У шырокай інтэграванасці ў грамадскае жыццё краіны яскрава праяўляецца роля літаратуры ў сучасным культурным развіцці грамадства. Творчая і грамадская праца членаў саюза за апошнія пяць гадоў адзначана больш як 20 высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, шматлікімі прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі. У гэтым — клопат дзяржавы пра пісьменнікаў, літаратуру.

Нярэдка апошнім часам даводзіцца чуць і пра тое, што пісьменніку не трэба выказваць палітычныя погляды, займацца палітыкай, а лепш знаходзіцца збоку, назіраць і быць нейтральным. Не магу пагадзіцца і з такім тэзісам. Чым не павінен займацца пісьменнік, дык гэта палітыканствам, гульнёй у палітыку. Не можа ён, не мае права таксама груба памыляцца ў ацэнцы палітычных падзей, у высновах наконт тых ці іншых палітычных рашэнняў і з'яў. Бо пра што б ні пісаў творца, ён павінен быць адукаваным, аперыраваць праверанымі фактамі, не скажаць праўды, адчуваць адказнасць за кожнае слова. Менавіта дзякуючы прадбачлівай ацэнцы падзей, валоданню прадметам адлюстравання, глыбокаму веданню розных працэсаў у грамадстве пісьменнік здолее дамагчыся значнага поспеху ў іх мастацкім адлюстраванні, а значыць, і чытацкага попыту. Сапраўдны творца, на маю думку, не можа быць звычайным сузіральнікам. Хоча ён таго ці не, але будзе займаць пэўную пазіцыю. Абыякавасць, замоўчванне, ухіленне таксама гавораць пра многае. Сапраўдны пісьменнік павінен быць грамадзянінам, патрыётам роднай краіны, свайго народа. А гэта значыць паважаць яго выбар, жыць яго спадзяваннямі і памкненнямі, адлюстроўваць яго інтарэсы і прыярытэты.

Мы жывём у мірнай, незалежнай краіне, якою можам ганарыцца, якую добра ведаюць і паважаюць ва ўсім свеце праз нашы эканамічныя, спартыўныя, культурныя здабыткі (у тым ліку і літаратурныя), праз імкненне да міру і супрацоўніцтва з усімі, праз нашу шчырасць і гасціннасць, праз узважаную, незалежную палітыку кіраўніцтва дзяржавы, пабудову сацыяльна арыентаванага грамадства… І нам неабходна берагчы, шанаваць, паглыбляць, паляпшаць тое, што маем, паступальна рухацца да лепшага.

Мы знаходзімся напярэдадні вельмі важнай палітычнай падзеі — выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Не сумняваюся, што пераважная большасць выбаршчыкаў прагаласуе за стабільнасць і парадак у грамадстве, за мірную, стваральную працу — асноўныя ўмовы для дасягнення высокага дабрабыту кожнага. Мы, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, разам са сваім народам — за шчаслівую, квітнеючую, прыгожую Беларусь.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

*Унікальны праект*

# Каталог? Энцыклапедыя!

**Так павялося, што каталогі мастацкіх выставак маюць не вельмі доўгае жыццё і досыць абмежаваную аўдыторыю. Выданні падобнага кшталту знаходзяць дом у асабістых зборах мастакоў, іх сяброў і блізкіх, арганізатараў арт-падзей, арт-крытыкаў ды калекцыянераў. Але, думаецца, каталог «Восеньскага салона з Белгазпрамбанкам» (Мінск: Чатыры чвэрці, 2015) прымусіць хваляваць як аматараў сучаснага мастацтва, так і бібліяфілаў. Выстаўка распачала сваю працу ўчора ў сталічнам Палацы мастацтва і будзе доўжыцца ў Мінску цэлы месяц.**




Напэўна, справа не толькі ў грандыёзнасці выдавецкага праекта, але перадусім у маштабнасці самой выстаўкі, дзякуючы якой стала магчымым з'яўленне гэтай кнігі-альбома. У прадмове да каталога старшыня праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Віктар Бабарыка падкрэслівае:

— Мы імкнёмся паказаць лепшае са створанага беларускімі мастакамі ў пачатку XXI стагоддзя. Сучасная частка экспазіцыі складаецца больш чым з 200 твораў 90 аўтараў, абраных экспертным журы на конкурснай аснове.

«Восеньскі салон» з'яўляецца лагічным працягам праекта Белгазпрамбанка «Арт-Беларусь». Летась у яго межах у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь паспяхова прайшла выстаўка «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», дзе былі прадстаўленыя самыя яркія работы з мастацкай спадчыны нашага народа. Сёлета ж увага арганізатараў звернутая на творчасць маладых. Таму і ўзрост удзельнікаў абмежаваны 18 — 40 гадамі — каб вызначыць найбольш перспектыўных з айчынных майстроў, тых, каму можа быць аказана падтрымка ў развіцці. Не забываецца Белгазпрамбанк пра пераемнасць мастацкіх школ у творчай прасторы Беларусі. Так, у адпаведнасці з канцэпцыяй, на выстаўцы суседнічаюць работы знакамітых мастакоў Парыжскай школы пачатку XX ст. і скульптура, палотны, інсталяцыі маладых айчынных аўтараў.

Арганізатары «Восеньскага салона» адзначаюць, што фармат падзеі адпачатку быў заяўлены як выстаўка-продаж з мэтай ацаніць перспектывы пабудовы айчыннага арт-рынку, а суправаджальная праграма, апроч знаёмства з самімі творамі мастакоў, дае магчымасць наведаць імпрэзы адукацыйнага і забаўляльнага характару, накіраваныя на папулярызацыю сучаснага мастацтва.

Але вернемся да самога каталога выстаўкі. Ён патрабуе асобнай увагі, бо здзіўляе колькасцю імёнаў мастакоў (іх больш як 90!), насычанасцю зместу. Таму наўрад ці нехта здолее хутка пазнаёміцца з кнігай. Незвычайная прыцягальная сіла прымушае далей і далей гартаць старонкі, разглядаць работы, іх асобныя дэталі, здзіўляцца вобразнасці і тэхніцы выканання, характэрным для кожнага з мастакоў. Уражвае і шырыня прадстаўлення імёнаў — ад ужо вядомых у нашай краіне творцаў, якія неаднаразова ладзілі ўласныя выстаўкі, да зусім маладых, хто падчас «Восеньскага салона» фактычна толькі дэбютуе ў вялікім свеце сур'ёзных і адказных выставак і арт-праектаў. Менавіта гэтыя адметнасці даюць падставы лічыць каталог не проста «прома-прадуктам», але і самастойным альбомам, падручнікам па сучасным мастацтве Беларусі, нават яго энцыклапедыяй! Думаецца, у хуткім часе гэтае выданне стане сапраўдным рарытэтам — што яшчэ раз падкрэсліць і ўнікальнасць самога выставачнага праекта.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца ў прывітальным слове адзначае:

— Новая арт-ініцыятыва з'яўляецца сведчаннем клопату пра перспектывы развіцця нашага нацыянальнага мастацтва як неад'емнага складніка агульнаеўрапейскага культурнага кантэксту.

І сапраўды, каталог выстаўкі «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» стане выдатным падарункам не толькі беларусам, але і замежнікам. Подпісы да ўсіх работ, вывявы якіх змешчаныя ў выданні, падаюцца на беларускай, рускай і англійскай мове. У лаканічных звестках нічога лішняга — колькі слоў пра аўтара, матэрыял і памер работы, а ўсё астатняе — сімволіка назвы, тэхніка — тлумачэння не патрабуе, бо мова мастацкіх сімвалаў зразумелая прадстаўнікам розных народаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# На крутых паваротах

**Пакліканы жыццём у літаратуру — так уяўляецца пакаленне, народжанае напярэдадні і неўзабаве пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Маладой Краіне Саветаў востра бракавала пісьменных людзей. Таму і адкрываліся навучальныя ўстановы, каб вывесці моладзь «на прасторы жыцця». Так абазначыў кірунак моладзевага развіцця Якуб Колас у сваёй вядомай аповесці, дзе апісаў заканчэнне галоўнымі героямі сямігодкі і далейшае паступленне на рабфак. І класік не хлусіў: такім шляхам ішлі тысячы.**

Адзін з іх — Усевалад Краўчанка, чыё стагоддзе мы будзем адзначаць 14 кастрычніка. Але адрозніваўся ён ад таварышаў тым, што нарадзіўся ў сям'і настаўніка, хоць і вясковага. Таму заканчэнне юнаком Мазырскага рабфака, вучоба на філфаку БДУ ў 1930-я гг. і далейшае супрацоўніцтва з перыядычнымі выданнямі не сталі выключнымі з'явамі ў кантэксце часу. Тым не менш У. Краўчанку вылучала пісьменніцкая дзейнасць. Акрамя журналістыкі, ён актыўна працаваў у розных жанрах літаратурна-мастацкай творчасці. Хоць і на гэтую дзялянку ўлівалася ўсё больш і больш ахвочых, але ў кожнага з іх былі свае торныя дарогі, пераадольваць якія вымушала само жыццё.

З такой прычыны многія творы, як падаецца з адлегласці часу, станавіліся водгукам на злабадзённыя тэмы і праблемы. І тут якраз дэбют У. Краўчанкі: першай кнігай стала прыгодніцкая аповесць для дзяцей «Таямніца аднае вышкі» (1935), якая была разлічана на падрастаючае пакаленне і не акцэнтавала ўвагу на тагачаснай сацыяльнай рэгламентацыі. Зрэшты, яна брала сваё. Пра гэта красамоўна кажуць наступныя кнігі апавяданняў: «На крутым павароце» (1937) і асабліва «Калгасныя навелы» (1940). У час вайны — праца ў газетах. У. Краўчанка загадваў аддзелам партызанскага жыцця. Значыць, быў з ім добра знаёмы. Гэта стала жыватворнай глебай для шматлікіх «шчырых, хвалюючых» (вызначэнне рэцэнзента М. Карпачова) апавяданняў і нарысаў.

Творчы здабытак У. Краўчанкі налічвае больш як 20 кніг, асобныя з якіх убачылі свет пасля сыходу аўтара з жыцця. Каля чвэрці адрасавана маладому чытачу, на якога пісьменнік ніколі не забываўся. Больш за тое, усведамляючы відавочныя прагалы ў айчыннай літаратуры, У. Краўчанка імкнуўся вырашыць праблему. У некаторым сэнсе ролю менавіта «сплачвання доўгу» адыгрываюць п'есы для дзяцей. Магчыма, таму іх вартасці неразнапачныя.

Так, п'еса «Торныя дарогі» (1937), адрасаваная юнацтву, перад якім савецкая ўлада адкрывала шырокія жыццёвыя шляхі, стала своеасаблівым сігналам узнікнення драматургічных твораў у межах тэорыі бесканфліктнасці (яе росквіт прыйшоўся на пасляваенныя гады). Па вялікім рахунку, перад моладдзю стаіць не пытанне выбару паміж кепскім і добрым, а праблема, якую ж дарогу выбраць з усіх светлых, што сустрэнуцца на парозе самастойнага жыцця. Персанажы п'есы дыферэнцыруюцца па прынцыпе вызначанасці дарогі ў будучыню.

Павучальным сюжэтам, але без ценю лозунгавай дыдактыкі, вылучаецца п'еса «Знойдзены кут» (1941). Аўтар умела даказаў, што праблемы, неадольныя для аднаго, можна вырашыць талакой. Толькі спалучэннем сваіх здольнасцей дзеці дасягаюць мэты — канструявання планера. Назва п'есы спачатку гучыць літаральна (Андрэй шукае патрэбны кут для крылаў), у канцы ператвараючыся ў метафару сяброўства, якое і стала тым патрэбным кутом. На прыкладах арыгінальных, а не аднатыпных і тоесных характараў аўтар удала паказвае, што эфектыўны калектыў — гэта не сума аднолькавых вінцікаў, а зладжанае ўзаемадзеянне індывідаў. Менавіта гэтага разумення не хапала ў творах многіх іншых беларускіх драматургаў таго часу, што і прадвызначала творчую няўдачу.

Пасля вайны У. Краўчанка не пакінуў дзіцячай драматургіі. Па-ранейшаму адгукаўся як на «вечныя» праблемы, так і на сацыяльныя актуаліі свайго часу. Так, у аднаактовай п'есе публіцыстычнага характару «Белыя галубы» (1956) знайшла адбітак «халодная вайна». У ёй СССР супрацьпастаўляецца заходняму свету, дзе дзеці пакутуюць і мараць пра савецкі лад. Нягледзячы на палітычную заангажаванасць і прапагандысцкую ролю, думаецца, п'есу варта разглядаць як пазітыўную з'яву таго часу. Па-першае, такія творы пашыралі тэматыка-праблематычны спектр дзіцячай драматургіі, па-другое, мелі яркую гуманістычную скіраванасць, прасякнутасць антываенным пафасам. Да таго ж сам канфлікт У. Краўчанка будуе цікава, хоць і з прыкметнай доляй надуманасці ў сюжэце.



*Іван Мележ, Янка Брыль і Усевалад Краўчанка. 1952 г.*
*Фота з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*

Для прыкладу творчай разнастайнасці згадаем таксама навагоднюю п'есу У. Краўчанкі «Наш добры друг» (1959). У ёй двоечнікі скіравалі Дзеда Мароза ў іншы бок, каб Новы год ім не прынёс яшчэ больш кепскіх адзнак. Ды на дапамогу прыходзяць добрыя вучні. Падагульняе гэты драматургічны шаблон трюізм: «Праўда — яна заўсёды верх возьме!..» Але ў цэлым і тут праявілася ўменне аўтара ствараць дынамічнае дзейства.

Як бачна, творчасць У. Краўчанкі даволі тыповая для свайго часу. Зрэшты, зусім не надаваць творчай увагі надзённай тэматыцы палітычнага характару нават у адрасаванай дзецям літаратуры ў той перыяд не ўяўлялася магчымым. Канечне, многае з напісанага У. Краўчанкам сёння засталося ў гісторыі не больш чым фактам літаратурнага працэсу. Аднак знаходзяцца і творы, якія можна «рэанімаваць» для рэпрэзентацыі сучаснаму чытачу.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Не абмініце

# Гісторыя ў асобах

**Хто з сучасных пісьменнікаў у сваіх творах яскрава адлюстроўвае гістарычны вобраз Беларусі? Адразу хочацца згадаць Юрыя Татарынава, чые захапляльныя сюжэты вяртаюць у глыбокую даўніну. Піша Ю. Татарынаў у асноўным на рускай мове, таму яго раманы можна рэкамендаваць для прачытання не толькі беларусам, але і ўсім, хто хоча бліжэй пазнаёміцца з сінявокай і яе мінулым.**

«Наша гісторыя маральная, чыстая, як вада ў крыніцах», — тлумачыць пісьменнік цікавасць да любімай тэмы. Юрый Татарынаў — заснавальнік кніжных серый «Беларусь гістарычная» і «Сентыментальныя сюжэты». Ёсць у аўтара і творы па краязнаўстве — выданні «Беларуская даўніна» (2002), серыя кніг пра гарады Беларусі: «Варута пад Новагарадком: узнікненне старажытнай беларускай дзяржавы» (2014)... Пісьменнік дапамагае чытачам пазнаць свой родны край, атрымаць матэрыялы пра мясціны, дзе жылі іх бацькі і дзяды. Дарэчы, кнігі актыўна выкарыстоўваюцца ў бібліятэках пры напісанні рэфератаў, курсавых работ. Гэта цікавая інфармацыя пра гісторыю гарадоў Беларусі, іх архітэктуру, знакамітыя мясціны.




Заканчваючы шасцігадовую працу над серыяй «Беларусь гістарычная», Юрый Татарынаў выдаў у 2013 г. кнігу «Гарады Беларусі ў некаторых цікавых гістарычных звестках: хто дадаваў нам славы». Аўтар кажа: «Ёсць людзі, якія надалі столькі славы нашай зямлі і народу, што мы цяпер застаемся абавязаныя ім навечна. Гэта людзі, якія будавалі, займаліся творчасцю ці прапагандавалі гісторыю». Перад вачыма чытача паўстаюць архітэктар Ян Самуэль Бэкер, паэт Адам Міцкевіч, гісторык Мікола Ермаловіч, мастак Напалеон Орда, гісторык Вячаслаў Насевіч, мецэнат Віктар Паўзун, авіяканструктар Павел Сухі і іншыя.

Апошнім часам аўтара цікавяць падзеі даўніны, звязаныя з вядомымі гістарычнымі асобамі — Міндоўгам, Гедымінам, Станіславам Панятоўскім. Ён разглядае як асабістае жыццё, так і палітычныя рэаліі: падзел улады, захоп тэрыторый. Гэта аповесці «Клопаты апошняга караля» (2009), «Ракавая страсць караля Міндоўга» (2013), «Завяшчанне князя Гедыміна» (2014).

«Завяшчанне князя Гедыміна» распавядае пра эпоху станаўлення хрысціянства ў старажытнай Літве. Мы бачым Гедыміна, які да канца жыцця заставаўся верным веры сваіх продкаў, таму ўлада ў краіне павінна была перайсці спадчынніку, што падтрымае веру. Акрамя князя краінай кіравалі жрацы, якія сачылі за захаваннем веры. Сярод прэтэндэнтаў на трон — князі Альгерд і Кейстут — сыны Гедыміна ад другой жонкі, княгіні Вольгі. Аднак жрэц папярэджваў: калі сыны Альгерд ці Люборт, якія хрысціліся ў праваслаўі пад імёнамі Андрэй і Фёдар, атрымаюць вянец улады, то багі ператвораць у попел усё, што князь заваяваў. Як ні ўпарціўся князь, улада пераходзіць да Еўнута — «няўдалага» сына: ціхі, з незласлівым норавам, ён выклікаў у бацькі найбольшую прыкрасць. Для ўлады ж патрэбны моцны і смелы чалавек, які зможа павесці за сабой, захаваць заваёвы Гедыміна.

Аднак Гедымін выконваў абяцанне, дадзенае сваёй трэцяй жонцы Еве: яна хацела бачыць князем свайго сына Еўнута, і ў гэтым падтрымліваў жрэц. Такім чынам, да ўлады прыходзіць Еўнут. На пахаванні Гедыміна Альгерд пачынае шкадаваць, што здрадзіў веры свайго бацькі і прыняў праваслаўе. Галоўнае — абарона дзяржавы, і ён гатовы здрадзіць, каб зноў стаць сынам князя. У сваю чаргу Кейстут адчувае: прыйшоў час змяніць уладу — сабраўшы войска, разам




> *Аўтар кажа: «Ёсць людзі, якія надалі столькі славы нашай зямлі і народу, што мы цяпер застаемся абавязаныя ім навечна. Гэта людзі, якія будавалі, займаліся творчасцю ці прапагандавалі гісторыю». Перад вачыма чытача паўстаюць архітэктар Ян Самуэль Бэкер, паэт Адам Міцкевіч, гісторык Мікола Ермаловіч, мастак Напалеон Орда, гісторык Вячаслаў Насевіч, мецэнат Віктар Паўзун, авіяканструктар Павел Сухі і іншыя.*

з Альгердам увайшоў у Вільню. Баязлівы Еўнут быў вымушаны збегчы, але быў знойдзены Кейстутам у горадзе. З прыходам да ўлады Альгерда ў Вільню прыйшло і праваслаўе. Жонка князя Марыя Яраслаўна актыўна прапагандавала новую веру, запрасіла прапаведніка айца Нестара, пачала будаўніцтва храма. Так у краіне ўсталявалася хрысціянства.

Аўтар акцэнтуе ўвагу ў першую чаргу на палітычных падзеях. Таму характары герояў не зусім выразныя.

Таксама цікавыя раннія творы Юрыя Татарынава. Гэта зварот да гістарычных падзей, легенд, якія прывабяць жаночую аўдыторыю, — раманы «Сэрца панны Марыі» (1993), «Княгіня Мянжынская» (1998), «Барбара Эрдзівіл…» (2003).

Раман «Сэрца панны Марыі» (1993) — гістарычна-авантурны твор, дзе падзеі разгортваюцца вакол прыгожай панны Марыі з




роду Эрдзівіл, якая шчыра кахае халопа, жадае простага шчырага шчасця.

Як паведамляла ў студзені 2012 г. газета «Літаратура і мастацтва», па выніках работы бібліятэк Беларусі за 2011 г. кніга Юрыя Татарынава «Княгіня Мянжынская» стала самай запатрабаванай сярод выданняў мастацкай літаратуры.

Цікавыя водгукі можна пабачыць у інтэрнэце на раман «Барбара Эрдзівіл». Чытачы высока ацанілі твор, і можна параіць яго ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і Літвы. У рамане маштабныя апісанні гістарычных фактаў, цікавыя прыгоды, інтрыгі і каханне. Побач з вядомымі гістарычнымі асобамі — зусім новыя, каларытныя і жывыя.

Пісьменнік Юрый Татарынаў працягвае актыўна працаваць, выдаецца, перавыдае. У 2015 годзе плануецца выхад новай аповесці аўтара «Вольны вяжа» у серыі «Беларусь гістарычная», а выдавецтва «Рэгістр» плануе выпусціць кнігу Юрыя Татарынава «Беларуская даўніна». Поўнае выданне падарожных нататак аўтара».

**Таццяна ЦІХАН**

Прэзентацыя

# «Няспынны бег, шалёны бег»

**Новая кніга вершаў выдатнага паэта Мар'яна Дуксы пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Зборнік пад назвай «Птушка вечнасці — душа» выйшаў у серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».**

Многія творы друкаваліся ў літаратурных часопісах і альманахах. Пераважная большасць напісана напрыканцы мінулага стагоддзя і на пачатку так званых нулявых. Створаныя ва ўласцівай Мар'яну Дуксе манеры глыбокіх філасофскіх разважанняў, яны застаюцца актуальнымі, а з цягам часу набываюць яшчэ больш каштоўнасці дзякуючы трываласці выкладзеных аўтарам маральных прынцыпаў і эстэтыцы вершаванага радка.




Асабісты вопыт спасціжэння Бога і занепакоенасць лёсам народа, Айчыны, заклапочанасць будучыняй роднай мовы і звілістым лёсам культуры, тэмы расчараванняў і ўсёпераможная любоў да чалавека — вось асноўныя лейтматывы большасці вершаў. Адчуванне сваёй мізэрнасці ў сусвеце і адначасова аптымістычная ўпэўненасць у сіле чалавечага духу, канстатацыя бездапаможнасці перад націскам гвалту і пратэст супраць бездухоўнасці чаргуюцца ў новай кнізе з лірычнымі строфамі і вытанчаным метафарычным гумарам аўтара.

*Тры жабы скочылі на корч*
*І партыю стварылі.*
*А потым квакалі ўсю ноч,*
*Аб шчасці гаварылі…*

І, як заўжды, вельмі многа ў аўтара рытарычных пытанняў. Ці не кожны другі верш пачынаецца ці заканчваецца так: «Што за суседства адчужаных слоў?», «Выносныя сосны, хто ж я сярод вас?», «…лепей што — геніяльныя дзеці / альбо дзеці, шчаслівыя вельмі?» А вось суцэльны верш-рыторыка:

*Няспынны бег, шалёны бег.*
*Ён з кожным годам нарастае.*
*Што з гэтага? Душа пустая.*
*Што мы ўхапілі? Грэх і смех.*

Сапраўды, Мар'яна Дуксу можна смела назваць майстрам рыторыкі, бо яго пытанні не патрабуюць адказу: прыводзяць да высноў без аўтарскага тлумачэння звычайных ісцін.

Яшчэ ў зборніку шмат разважанняў пра месца паэзіі і паэта ў сучасным свеце. І тут майстар слова застаецца верным сабе і перакананням. Сваёй творчасцю ён упарта сцвярджае, што вершы не легкадумная пацеха на вясёлай вечарынцы. Паэзія як сястра філасофіі павінна вучыць жыццю па самых высокіх мерках чалавечай адказнасці, быць паходняй, што асвятляе дарогу праз змрок, быць духоўнай ежай, што сілкуе розум маладым і надае душэўнай раўнавагі сталым.

**Ала КЛЕМЯНОК**

На паліцы

# Забойства Кубэ: новыя факты

**Некалькі месяцаў таму мы адзначылі 70-годдзе Вялікай Перамогі. Другая сусветная і Вялікая Айчынная войны даўно сталі гісторыяй. Але тыя падзеі працягваюць хваляваць мільёны людзей. Адна з іх — забойства Вільгельма Кубэ ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 года.**




Падзея знайшла адлюстраванне ў шэрагу кніг, часопісных і газетных артыкулаў. Толькі ў Мінску ў 2007 — 2014 гадах пабачылі свет тры выданні на гэтую тэму: «Паляванне на ката» Вячаслава Селяменева і Віктара Шымоліна (2007), «Хто, як і навошта забіў Вільгельма Кубэ» Алега Усачова (2013) і «Узлёты і падзенні Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі» Анатоля Валахановіча (2014). А зусім нядаўна ў сталічным выдавецтве «Новапрынт» выйшла новая кніга, прысвечаная гэтай тэме, — гісторыка-дакументальны нарыс Вячаслава Селяменева і Віктара Шымоліна «Забойства Вільгельма Кубэ».

У чытача адразу ўзнікаюць пытанні: колькі яшчэ можна пісаць пра Кубэ? Што ў новай кнізе важнае і цікавае ў параўнанні з папярэднімі выданнямі? Паспрабуем даць адказы.

Па-першае, ні ў якім разе нельга сказаць: «Хопіць пісаць пра забойства В. Кубэ», бо і да сённяшняга дня існуе нямала «белых плям», а многія архіўныя справы засакрэчаны. Па-другое, новая кніга — не проста паўтарэнне тэксту мінулага даследавання аўтараў. Яна дапоўнена дзвюма новымі главамі, вельмі каштоўнымі і цікавымі матэрыяламі адносна падрыхтоўкі замаху і самога замаху на ката беларускага народа. Без перабольшання можна адзначыць, што на аснове найноўшых матэрыялаў аўтары ў многім пераасэнсавалі асвятленне шэрагу пытанняў.

Так, напрыклад, з'явілася новая глава «Мінчане пад нацысцкай акупацыяй». На падставе архіўных крыніц тут аналізуюцца нацысцкія ідэалогія і палітыка ў дзейнні, у прыватнасці раскол жыхароў беларускай сталіцы на дзве няроўныя групы: «мінчан-тутэйшых» і «мінчан-яўрэяў». На мой погляд, асабліву цікавасць і каштоўнасць уяўляе новая глава «Загадка гібелі «Дзімы», прысвечаная трагічнай смерці аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў аперацыі па знішчэнні В. Кубэ Давіда Кеймаха.

Аўтары новай кнігі пасля апісання сустрэч М. Осіпавай з Д. Кеймахам прыводзяць некалькі важных, прынцыповых радкоў з даклада НКДБ СССР, Разведупраўлення Генштаба Чырвонай Арміі і Цэнтральнага штаба партызанскага руху ў ДКА (Дзяржаўны Камітэт Абароны — **Э. І.**) пра ліквідацыю генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ, падрыхтаванага ў кастрычніку 1943 года. Напярэдадні выбуху на Тэатэрштрасэ, 27 (вул. Ф. Энгельса) Кеймах з групай партызанскіх камандзіраў вылецеў у Маскву, але на сталічным аэрадроме самалёт не прызямліўся. З гэтага моманту пачынаецца пакутлівае чаканне, якое з часам пераходзіць у пераканане: здарылася непапраўнае. Якая ж трагедыя адбылася 13 верасня 1943 года?

Новым у параўнанні з выданнем 2007 года «Паляванне на ката» з'яўляецца тлумачэнне трагічнай гібелі Давіда Кеймаха. Дарэчы, падобную версію пра тое, што гібель Д. Кеймаха і групы партызанскіх камандзіраў 13 верасня 1943 года — вынік дзейнасці нямецкіх спецслужбаў, выказалі ў 1992 годзе польскі гісторык Ю. Туронак у кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» і аўтар гэтых радкоў у сваёй працы «Абвер, паліцыя бяспекі і СД, таемная палявая паліцыя, аддзел «Замежныя арміі — Усход» у заходніх абласцях СССР. Стратэгія і тактыка. 1939 — 1945 гг.» (Мінск, 2007).

Пэўныя змены адбыліся ў тэксце главы «Таемнае становіцца яўным», дзе аналізуецца гісторыя выбуху ў Мінскім драматычным тэатры 22 чэрвеня 1943 года, у выніку чаго загінула 30 чалавек і паранена каля 100. Гісторыя дапоўнена новым матэрыялам пра сустрэчу аўтараў з сынам адважнага мінскага падпольшчыка і сувязнога партызанскай групы «Жалязняк» Мінскай вобласці Васіля Аглазінскага, які загінуў падчас гэтага выбуху, — Канстанцінам Аглазінскім. Водгук К. Аглазінскага стаў для аўтараў кнігі прыемным сюрпрызам, бо раней пра ролю Васіля Аглазінскага ў гісторыі выбуху ў Мінскім драмтэатры было вядома вельмі мала.

У кнізе «Паляванне на ката» ў «Дадатку» прыведзена 22 дакументы. А ў новым даследаванні аўтараў змешчана 25 дакументаў. Сярод іх — вытрымкі з даклада НДКБ СССР, Разведупраўлення Генштаба Чырвонай Арміі і Цэнтральнага штаба партызанскага руху ў ДКА пра ліквідацыю генеральнага камісара Беларусі гаўляйтара Вільгельма Кубэ (не раней за 29 кастрычніка 1943 г.), справаздача камандзіра спецгрупы маёра С. І. Казанцава начальніку Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнку пра зробленую работу па агентурнай справе «Сатурн» ад 5 лютага 1944 г. і матэрыялы «круглага стала». Гісторыкі абмяркоўваюць таямніцы забойства Кубэ «Прысуд Радзімы выканаы…», апублікаваныя ў часопісе «Беларуская думка».

Калі раздзел «Крыніцы» 8 гадоў таму налічваў 150 спасылак, то ў 2015 годзе іх стала 179, раздзел «Бібліяграфія» — 30 крыніц, цяпер іх — 48.

Нягледзячы на шматлікія вартасці кнігі В. Селяменева і В. Шымоліна, нельга не выказаць некаторыя заўвагі.

Лічу, аўтарам мэтазгодна было б выказаць свой пункт гледжання на кнігі А. Усачова «Хто, як і навошта забіў Вільгельма Кубэ» і А. Валахановіча «Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне гісторыі Беларусі». Да сённяшняга дня ў энцыклапедыях і шматлікіх выданнях адзначаюць: Алена Мазанік была «актыўным удзельнікам Мінскага патрыятычнага падполля». У сувязі з гэтым аўтары кнігі маглі б больш выразна акрэсліць сваю пазіцыю: А. Мазанік не з'яўлялася мінскай падпольшчыцай, яна была прыцягнута да забойства В. Кубэ актыўнай удзельніцай гэтага падполля, кіраўніком падпольнай групы Марыяй Осіпавай.

Гэтыя заўвагі не зніжаюць навуковай каштоўнасці кнігі. Безумоўна, творчы саюз гісторыка Вячаслава Селяменева і філолага ды журналіста Віктара Шымоліна аказаўся вельмі плённым. Яны стварылі цікавую, каштоўную і ў многім унікальную кнігу, што будзе запатрабаванай не толькі гісторыкамі і студэнтамі, але і шырокім колам чытачоў, што цікавяцца падзеямі Вялікай Айчыннай вайны і гісторыяй Беларусі перыяду 1941—1945 гадоў.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**прафесар БДПУ імя Максіма Танка,**
**доктар гістарычных навук**

# Словы, вобразы, радкі...

**У Таццяны Атрошанка схільнасць да творчасці з маленства. Яна нарадзілася ў пасёлку Вялікі Мох, што на Гомельшчыне, у Буда-Кашалёўскім раёне. Маці ведала шмат калыханак, прымавак, прыказак. Бабуля Таццяны валодала выдатным голасам, спявала. Чула дзяўчынка ў сям'і і пра здатнасць прадзеда, які іграў ледзьве не на ўсіх музычных інструментах, умеў іх рамантаваць.**

Летам дзяўчынка назірала, як свавольны гарэза-ветрык плача пад пошчак дажджавых кропель, парушаючы спакой зямлі. Угледаючыся ў просінь неба, любіла сачыць за палётам жураваў: паляцець бы за птушкамі… І цяпер, ужо дарослую, Таццяну натхняюць родныя вобразы: ружовы позірк небакраю, бель туманоў на золку, зоры над родным Вялікім Мохам. Не забыцца і пра ночы, калі не хацелася спаць, калі цішком выходзіла на падворак, а вецер цалаваў валасы. Здавалася, кліча світальная зорка.

Любоў да мастацкага слова, мелодыка роднай мовы павялі ў жыццё. Паступіла ў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны — на філалагічны факультэт. Акунулася ў стыхію моў, літаратур, фалькору. Тут напісаны і першы верш «Маладосць мая», які надрукавалі на старонках газеты «Гомельскі ўніверсітэт» у рубрыцы «Паэтычны дэбют».

А на слыннай купалаўскай зямлі, дзе апынулася пасля атрымання дыплома, як сама прызнаецца, па волі лёсу, першым творам стаў верш-прысвячэнне «Родны дом». Галоўнымі для настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сталі паэзія і песня. І калі працавала ў гарадской гімназіі № 10, і калі пачала выкладаць родную мову і літаратуру ў Маладзечанскім медыцынскім каледжы. Асабліва поўна талент Таццяны раскрыўся, калі ў Палацы культуры яна ўзначаліла літаратурнае аб'яднанне «Агмень». «З яе прыходам пачаўся новы этап у рабоце аб'яднання, — дзеліцца сябра суполкі Тамара Бярэзіна, аўтар кнігі «Карані і крона». — Ладзяцца цікавыя сустрэчы з аднадумцамі, адчуваецца прага творчасці».

Як адзначае паэт Алесь Бадак у прадмове да першага зборніка вершаў сяброў паэтычнага аб'яднання «Агмень», укладальнікам якога з'яўляецца Таццяна Атрошанка, «сваю адметную старонку ў гісторыі яе (Маладзечаншчыны) літаратурная жыцця імкнуцца ўпісаць і аўтары вершаванага зборніка». І дадае колькі слоў пра творы самой укладальніцы: «у гэтай таленавітай паэткі своеасаблівым фонам душэўных перажыванняў з'яўляецца прырода, што вымагае ад аўтаркі пошуку яркай вобразнасці і песеннасці радка…»


Фота з сайта budakosh.by.

Таццяна Атрошанка прадстаўляе зборнік паэзіі «Не я…».

Дагэтуль паэтычныя і празаічныя творы Таццяны друкаваліся на старонках «Маладзечанскай газеты», часопісаў «Маладосць», «Рюкзачок» ды іншых, выйшлі зборнікі «Прызнанне ў любові і каханні», «Тут я бачу свой край», «Не я...».

«Не я…» А хто? Мо мроі, перажыванні, летуценні творцы? Яна, як прызнаецца ў вершы «Не я…», нібы саткана з хмар, бы трапяткі і лёгкі птах, імкнецца ўвысь. Думкі паэтэсы тут і ў іншых вершах завуаліраваны, мысленне метафарычнае. Унутраны стан і пачуцці лірычнай гераіні вымалеваныя запамінальна-дэталёва, яскрава, знітаваныя з прыроднымі з'явамі. То ёй хочацца паляцець у вырай за птушкамі, што «імкнуць у аблокі», то — пабываць у бацькоўскім доме на Гомельшчыне, хочацца. Адчувае, што «з светам матчыных вачэй па жыцці ісці лягчэй». Паэтэса здольная душою бачыць, «калі неба ад снегу дрыжыць», калі «пабягуць па лузе ліха тумано ў сівыя коні». Адчувае каханне, «што прысела на парог».

Паэзія і песня… Вершы, напісаныя сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццянай Атрошанка, натхняюць кампазітараў. Шмат яна піша для дзяцей. Друкавалася ў вучэбна-метадычным дапаможніку «Музыка ў першым класе».

Творца актыўна супрацоўнічае з дзіцячымі вакальнымі студыямі «Спяваем разам», «Наталі», «Нон-стоп», «Мікс», з кампазітарамі Аленай Атрашкевіч, Сяргеем Ждановічам, Уладзімірам Сарокіным ды іншымі. Песні, напісаныя ў суаўтарстве з гэтымі музыкантамі, неаднаразова перамагалі на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. Яны — пра пачуцці: каханне, радасна-аптымістычнае і са светлым сумам; зіма пакідае нашы душы, а наперадзе — цёплая вясна…

**Аляксандр ХАЗЯНІН**

# Прыгоды на гарачым кантыненце

**Таямнічая афрыканская краіна, населеная гордымі плямёнамі, — месца, дзе разгортваюцца падзеі гісторыка-прыгодніцкага рамана «Гарачае сонца Эфіопіі», які выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда». Аўтар, Алесь Марціновіч, пагружае чытачоў у атмасферу розных часоў — ад старажытнасці да XIX стагоддзя, супрацьлеглых нораваў і традыцый, маленькіх, яркіх лёсаў людзей з розных куткоў вялікага, усёабдымнага свету.**

Чаму мы варагуем? Здаецца, на гэтае пытанне мог бы адказаць галоўны герой рамана, граф Аляксандр Булатовіч, чалавек, прызначаны для вайсковай службы, але ў душы — адданы гуманіст, заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу. Не кожны змог бы, як ён, падараваць каштоўную карціну незнаёмаму чалавеку, які трапіў у бяду.

Аляксандр Булатовіч — фігура вельмі неадназначная: хтосьці называе яго свецкім павесам, героем арыстакратычнага Пецярбурга, маладым гулякам, аматарам жанчын, інтрыг і скандалаў. Іншыя ж ведаюць як бліскучага воіна, адважнага вандроўца, яркую і неардынарную асобу.

Дзе праўда? У кнізе Алеся Марціновіча граф паўстае ў першую чаргу як чалавек смелы і рашучы. У канцы XIX стагоддзя ён выпраўляецца ў далёкую, на той час вельмі небяспечную Эфіопію. Не толькі таму, што Расія вырашыла дапамагчы афрыканскай краіне справіцца з заваёўнікамі, якія спрабавалі падзяліць яе, быццам пірог, на часткі, ператварыўшы ў калоніі. Яшчэ і дзеля даследаванняў.

*Цікавыя факты з'яўляюцца ў кожнай частцы кнігі, таму, перагортваючы чарговую старонку, адразу рыхтуешся да нечаканасцей. Трапляюцца і проста пазнавальныя гісторыі — кшталту маленькай замалёўкі пра паходжанне кавы.*

Менавіта граф, які фігуруе ў рамане, стаў першаадкрывальнікам многіх эфіопскіх зямель, нанёс на карту назвы некаторых яе гор, рэк, азёр, дарэчы, надзвычай маляўнічых і па-чароўнаму прыцягальных.

Апавяданне ў рамане пачынаецца здалёк, а дакладней — са згадкі пра «Дванаццаць крэслаў» Ільфа і Пятрова, дзе ўпершыню паўстаў вобраз таго самага графа ў гісторыі пра гусара-схімніка. Вось так у літаратурным свеце, як і ў чалавечым, усё ўзаемазвязана. Словамі Астапа Бэндэра закладваецца філасофская лінія кнігі: жыццё — складаная штука, але адкрываецца проста, як скрыня. «Да чаго б гэта?» — напэўна, падумаюць чытачы. Адказ просты: усё, праз што праходзіць герой рамана, цяжкасці і перашкоды на яго шляху, на самай справе лёгка пераадольваюцца, калі верыць і змагацца.

*Дзякуючы раману чытач і сам здзейсніць вялікае падарожжа: даведаецца пра прыроду і рэлігію Эфіопіі, традыцыі яе жыхароў, пра культ рамёстваў і пакланенне дрэвам, навучыцца адрозніваць плямёны...*

Раман складаецца з дзвюх частак, чытаць якія трэба разам, не падзяляючы. Інакш страціцца сутнасць, кампазіцыя сюжэта. Тым больш аповед даволі падрабязны, насычаны дэталямі, лічбамі, гістарычнымі імёнамі, складанымі фактамі. Такое чытанне — не проста гульня ў словы, а практыкаванні для розуму. Пісьменнік, тым не менш, вядзе сваю гутарку з чытачамі вельмі паслядоўна. Ужо з першай главы можна даведацца пра некалькі цікаўных падрабязнасцей з дзяцінства Булатовіча, пра яго бацькоў, пагаджаючыся з тым, што гены — рэч неаспрэчная.




Юны граф паўстае таленавітым чалавекам, вучыцца не дзе-небудзь, а ў Аляксандраўскім ліцэі, выпускнікі якога станавіліся на той час дыпламатамі і вышэйшымі дзяржаўнымі чыноўнікамі. Але замест спакойнай і прэстыжнай грамадзянскай пасады хлопец выбірае вайсковую службу. Пачынаецца яго кар'ера з гусарскага палка кавалерыйскай дывізіі, потым ён атрымлівае афіцэрскае званне... Але дзе ж Эфіопія? Зусім хутка!

Ужо ў другой частцы кнігі аўтар пераходзіць да выкладання сутнасці гэтай таямніцы, дакладней, тлумачыць, адкуль у рускага двараніна, статнага і багатага юнака, з'явілася такая вялікая сімпатыя да Эфіопіі, пра якую ў Расіі на той час не кожны і чуў.

Аказваецца, справа ў кнігах: дзякуючы ім Аляксандр з дзіцячага ўзросту далучаўся да мудрасці стагоддзяў, малюючы ва ўяўленні далёкія землі, правадыры якіх, па легендах, знаходзіліся ў сваяцтве з самім царом Саламонам.

Алесь Марціновіч надае вялікую ўвагу гістарычным фактам, адыходзячы ад асноўнай карціны сюжэта, што робіць аповед інфарматыўным і пазнавальным.

Можна даведацца і пра каханне цара Давіда да прыгожай замужняй Вірсавіі, і пра Каўчэг Запавету, святыню, дзе захоўваліся каменныя скрыжалі з дзесяццю запаведзямі, атрыманымі Майсеем ад самога Госпада, і пра вельмі багатае старажытнае царства Саба.




Мноства разгорнутых партрэтаў правадыроў Эфіопіі падае аўтар. Напрыклад, першага іудзейскага цара Сабейскага царства Менэліка, сына Саламона, царыцы Саўскай, якая стала кіраваць дзяржавай у 14 гадоў і, паводле домыслаў, умела чараваць.

Багацце гістарычных дат у рамане таксама здзіўляе: ланцужок падзей разгортваецца на працягу ажно васьмі стагоддзяў! Міжусобныя войны, крывавыя змовы, захопы земель...

Але вярнемся да галоўнага героя. Чытачы зноў аказваюцца побач з Аляксандрам Булатовічам з прычыны цяжкіх палітычных стасункаў Эфіопіі з Італіяй. Аляксандр Булатовіч адпраўляецца на «Чорны кантынент» разам з атрадам Чырвонага Крыжа, каб дапамагчы афрыканскім братам.

Адразу ўспамінаецца адважны Рабінзон Круза: у лёсе графа — не менш прыгод. Спачатку даводзіцца вывучыць складаную ахмарскую мову, потым — трапіць у краіну, звычаяў жыхароў якой ён не ведаў. Пра бяспеку прыйшлося забыць. Перамяшчацца прыпадала на мулах і вярблюдах (і гэта для чалавека, які прызвычаіўся да добрых скакуноў і ўтульных карэт). Бязмежныя дарогі спякотнай краіны няспынна палохалі зменлівым кліматам, марадзёрамі, недахопам вады... Што вяло Булатовіча ўвесь час? Прага спазнання. У першыя дні свайго знаходжання ў Эфіопіі ён просіць мясцовую ўладу дазволіць яму даследаваць Кафу — дзяржаву з надзвычай багатым мінулым, якая прыйшла ў заняпад пры незразумелых абставінах.

У падарожжы граф увесь час вёў дзённік. Ён выдатна валодаў пяром, не абмяжоўваўся канстатацыяй фактаў, а даваў ім разгорнутую характарыстыку. Як адзначае аўтар рамана, вельмі цікавяць яго запісы народных паданняў, казак, легенд, аналіз сітуацый, у якія даводзілася трапляць.

Дзякуючы раману чытач і сам здзейсніць вялікае падарожжа: даведаецца пра прыроду і рэлігію Эфіопіі, традыцыі яе жыхароў, пра культ рамёстваў і пакланенне дрэвам, навучыцца адрозніваць плямёны, пабачыць экзатычныя будынкі афрыканскага жытла і нават паляванне на сланоў!

Цікавыя факты з'яўляюцца ў кожнай частцы кнігі, таму, перагортваючы чарговую старонку, адразу рыхтуешся да нечаканасцей. Трапляюцца і проста пазнавальныя гісторыі — кшталту маленькай замалёўкі пра паходжанне кавы. Толькі не кажыце, што ўсе дакладна ведаюць, дзякуючы каму яна з'явілася і калі. Яшчэ да канца сямнаццатага стагоддзя гэты напой быў ледзь не «нектарам жыхароў неба» ў самых багатых еўрапейскіх дамах. А прывезлі яго з ужо згаданай дзяржавы Кафа.

Пра што яшчэ даведаецца Аляксандр Булатовіч, схіляючы да сябе людзей, выкарыстоўваючы зброю слоў і спраў ў дарагой сэрцу Эфіопіі? Ці вернецца ён на радзіму? Ці здолее дапамагчы прыгнечаным плямёнам? Ці здабудзе асабістае шчасце? Усё гэта — на старонках рамана.

*Алесь Марціновіч надае вялікую ўвагу гістарычным фактам, адыходзячы ад асноўнай карціны сюжэта, што робіць аповед інфарматыўным і пазнавальным.*

Другая частка займальнай гісторыі, якая расцягнулася амаль на шэсцьсот старонак, пачынаецца так імкліва, што чытач ледзь паспявае перавесці дух. «Палкі пачалі прыбываць у восем гадзін раніцы», — адразу пераходзіць да справы Алесь Марціновіч, апісваючы бесперапынны паток людзей, падвод і жывёл. Перад вачыма паўстае экзатычная карціна: флейтысты на мулах, а ў сярэдзіне каравана — таямнічы галоўнакамандуючы Вальдэ Георгіс у асяроддзі слуг. Аляксандру Булатовічу давядзецца пазнаёміцца з многімі знакавымі асобамі, якія адыграюць у яго лёсе вельмі важную ролю, а самому... працягнуць свае даследаванні, заводзячы чытачоў усё далей па гарачых і пыльных дарогах радзімы самага духмянага ў свеце напою, гор-волатаў і людзей з шакаладнымі вачыма. Дарэчы, каву ў сучаснай Эфіопіі п'юць нават з соллю — і закусваюць... папкорнам! Падзеям з кнігі таксама хочацца верыць, але ці ж так важна, шмат у ёй аўтарскай выдумкі ці не, калі чытаецца, як кажуць, на адным дыханні?..

**Марыя ВОЙЦІК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «ТЭАРТ» без клішэ

Тэатральнае дзейства на сцэне сталічнага ТЮГа ўвасобілі акцёры тэатра *Compagnia Finzi Pasca*, створанага ў 2011 годзе. Артысты развіваюць кірунак «далікатнага тэатра», для якога характэрна асаблівая лёгкасць.

Донка — спецыяльная вуда са званочкам, які звініць, калі рыба заглынае прынаду. А. Чэхаў вельмі любіў рыбалку. Даніэле Фінцы Паска стварыў спектакль, сюжэт якога заснаваны на п'есе «Тры сястры», але шмат у чым распавядае пра самога пісьменніка. Дзіўна, але да таго, як паставіць «Донку», Фінцы Паска практычна нічога не ведаў пра аднаго з самых знакамітых рускіх пісьменнікаў. Магчыма, менавіта гэта і дазволіла рэжысёру адысці ад класічнага ўяўлення пра Чэхава-драматурга — праз лісты, дзённікі, тэксты і біяграфіі ўбачыць рэальную шматгранную асобу.

Але Фінцы Паска не псіхолаг, а перш за ўсё цыркач. Яго пастаноўка пераносіць гледача ў казачны свет блазнаў, паветраных эквілібрыстаў, жанглёраў і акрабатаў, дзе і ажываюць звыклыя чэхаўскія персанажы.

Паводле дырэктара і арганізатара форуму Анжалікі Крашэўскай, спектаклі латышскага рэжысёра Алвіса Херманіса — заўсёднікі «ТЭАРТа». Яго пастаноўка «**Латышскае каханне**» — прыклад дакументальнага тэатра: рэжысёр і акцёры бралі з газет рэальныя аб'явы пра знаёмства. Але, натуральна, кожны з выканаўцаў успамінаў гісторыю кахання і дадаваў штосьці сваё. Гэта спектакль пра Латвію і латышоў, але адначасова пра мужчын і жанчын, адзіноту і каханне, якія не маюць нацыянальнай прывязкі. Таму «Латышскае каханне» — погляд на нас, толькі збоку.


Сцэна са спектакля «Чэхаў. Камедыя. Чайка» Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.

Італьянскі баламут, сябар і паслядоўнік Піны Баўш Піпа Дэльбона прывёз у Мінск свае «**Архідэі**». Для рэжысёра гэта самыя падступныя кветкі: сапраўдную расліну цяжка адрозніць ад штучнай. Гэта фантасмагарычнае ўяўленне раскрывае канфлікт праўдзівага і ўяўнага ў жыцці чалавека. Спектакль-калаж з тэкстаў класікаў Шэкспіра і Чэхава, амерыканскага бунтара 1950-х Джэка Керуака пад матывы *Deep Purple*.

У юбілейным фэсце як ніколі шмат музыкі. Бельгійскі спектакль-джаз «**Старына Монк**» — тэатралізаваны канцэрт пра аднаго з родапачынальнікаў стылю «бібоп» і проста выбітнага джазавага піяніста Тэлоніуса Монка. Пастаноўка — аповед пра старэнне, пра немагчымасць цела і духу існаваць у гармоніі.

Сёння і заўтра на сцэне Палаца культуры МАЗ легендарны Томас Астэрмаер, кіраўнік вядучага нямецкага тэатра *Shaubunhe Berlin,* прадставіць спектакль «**Вораг народа**». Дзеянне пастаноўкі (па аднайменнай п'есе Генрыка Ібсена) адбываецца ў горадзе-курорце. Паводле сюжэта, доктар Стокман выяўляе, што крыніца лекавай вады заражана патагеннымі мікраарганізмамі, і збіраецца напісаць пра гэта ў газету. Але яго брат, гарадскі дарадца, разумее, што эканамічны росквіт горада-курорта апынецца пад пагрозай...

Спектакль культавага нямецкага рэжысёра Т. Астэрмаера ўпершыню быў паказаны ў 2012 годзе на Авіньёнскім фестывалі і з таго часу аб'ездзіў увесь свет. Драма Г. Ібсена паказвае тонкую грань паміж сумленнасцю і фанатызмам.

10 і 11 кастрычніка ў камернай зале Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы гледачоў чакае адзін з самых незвычайных спектакляў форуму — «**MATHATRIA**». Назва пастаноўкі складаецца з двух слоў: «матча» — чай, які падаецца падчас японскай чайнай цырымоніі, і «атрыум» — перадсэрдзе. Кожны глядач у прамым сэнсе атрымае сардэчны прыём! «MATHATRIA» — мультымедыйная харэаграфічная інсталяцыя. Яна аб'ядноўвае танец (у выкананні адной з лепшых танцорак сучаснасці Юі Кавагуці), *3D*-графіку, аўдыякалажы і праўдзівую японскую цырыманіяльнасць.

Новае прачытанне «**Яўгенія Анегіна**» можна будзе ўбачыць 12 і 13 кастрычніка ў Тэатры юнага гледача. Цімафей Кулябін, двойчы лаўрэат прэміі «Залатая маска» 2014 года, адсоўвае знаёмае нам са школы ўяўленне пра «энцыклапедыю рускага жыцця», «рамантычную гісторыю», «пушкінскі Пецярбург», «эпоху баляў і дуэляў» і ставіць на першы план унутраныя перажыванні герояў. Рэжысёр не прытрымліваецца кананічнага чытання А. Пушкіна, але імкнецца перадаць светаадчуванне паэта і тое, як моцна ён рэзаніруе з XXI стагоддзем.

Упершыню за доўгія гады ў Мінск прыедзе легендарны Акадэмічны малы драматычны тэатр (16 і 17 кастрычніка), які ўзначальвае Леў Додзін — рэжысёр з сусветным імем, майстар псіхалагічнага тэатра. Спектакль «**Жыццё і лёс**» пастаўлены па аднайменным рамане Васіля Гросмана. Канфіскаваны спецслужбамі ў 1961 годзе, раман быў апублікаваны пасля смерці пісьменніка. Дзеянне кнігі, якую называюць «Вайной і мірам» дваццатагастагоддзя,адбываецца падчас Другой сусветнай вайны. У цэнтры пастаноўкі — маральны выбар чалавека ва ўмовах таталітарнай сталінскай сістэмы. Дарэчы, адну з роляў сыграе вядомая расійская актрыса Лізавета Баярская.

Прыедзе сёлета і знакаміты вучань Льва Додзіна, знаёмы мінскаму гледачу па работах з Паўлам Пражко («Сумны хакеіст»), — рэжысёр Дзмітрый Валкастрэлаў. «**Танец Дэлі**» (18 кастрычніка) — яго работа па п'есе Івана Вырыпаева — зборнік з сямі навел пра смерць, чалавечыя беды і вінаватых. Спектакль ужо ставіў у тэатры і ў кіно сам І. Вырыпаеў, тым цікавей параўнаць аўтарскую інтэрпрэтацыю з бачаннем Д. Валкастрэлава.

Венгерскі тэатр «ТАР» на чале з Вілмашам Вайдаі прадставіць гледачам (19 кастрычніка) перапрацаванага А. Астроўскага — «**Прыбытковае месца**», шчодра «прыправіўшы» класічную п'есу едкай насмешкай, бунтарскім духам і арыгінальным музычным акампанементам.

Упершыню ў фестывалі «ТЭАРТ» з музычным перформансам возьме ўдзел Украіна (22 кастрычніка). **Dakh Daughters Band** — сем актрыс кіеўскага тэатра «ДАХ», якія ўзялі ў рукі музычныя інструменты, каб з «грымучай сумесі» славянскіх матываў, Шэкспіра, Бродскага, французскай паэзіі і сусветных хітоў зрабіць жыццесцвярджальны перформанс пра каханне, свабоду і прыгажосць.

Закрые міжнародную праграму юбілейнага форуму 23 кастрычніка ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прыгожы «шэкспіраўскі» спектакль Левана Цуладзэ «**Як вам гэта спадабаецца**» ў выкананні Тбіліскага акадэмічнага тэатра імя Катэ Марджанішвілі. Гэта не самы вядомы твор Уільяма Шэкспіра, але менавіта ў ім некаторыя даследчыкі бачаць вытокі класічных тэкстаў. На сцэне з'явяцца прататып Гамлета, меланхалічныя героі са «Сну ў летнюю ноч» і мудрэц Праспера з «Буры». А яшчэ ў гэтай пастаноўцы, як у люстэрку, можна ўбачыць зданяў Дантэ, Арыстафана і нават Чэхава і Брэхта.

## АЙЧЫННЫ ШОЎКЕЙС

Асаблівай увагі сёлета заслугоўвае праграма беларускіх спектакляў. *Belarus Open* праходзіць у межах «ТЭАРТ» ужо ў трэці раз, аднак цяпер змяняе фармат і становіцца беларускім шоукейсам. У афішы — лепшыя



Сцэна са спектакля «Яўгеній Анегін» Цімафея Кулябіна (Расія).


Сцэна са спектакля «Донка — пасланне Чэхаву» Даніэле Фінцы Паска (Швейцарыя).

тэатральныя пастаноўкі 2014 года, адабраныя крытыкамі.

Адкрылі праграму *Belarus Open* на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек прэм'еры — чорная камедыя «**Інтэрв'ю з ведзьмамі**» Яўгена Карняга, а таксама тэатр танца «*Karakuli*» з пластычным спектаклем Вольгі Лабоўкінай «**Vasen-Extasen**». Назва апошняга танцавальнага перформансу запазычана ў аднайменнай экспазіцыі фотамастакоў Ганны і Бэрнхарда Блюм, прадстаўленай у Музеі сучаснага мастацтва ў Франкфурце.

Сумесны праект Цэнтра сучасных мастацтваў і Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — спектакль «**Ілюзіі**». Чацвёра маладых акцёраў распавялі паэтычную, светлую і ў той жа час пранізлівую гісторыю дзвюх шлюбных пар. Простая размова пра каханне, сяброўства, давер, з дапамогай якой раскрываецца праўда пра свет: няма на што абаперціся. А пры лёгкім дотыку ён рассыпаецца на дробныя рознакаляровыя аскепкі.

«**Чэхаў. Камедыя. Чайка**» Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра — спектакль, не падобны да класічнай чэхаўскай пастаноўкі. Тут усё будуецца на кантрастах паміж высокімі пачуццямі і суровай рэальнасцю. Дзеянне п'есы разгортваецца ў цяперашнім часе і на нашых вачах, правакуючы гледача ўключыцца ў тое, што адбываецца на сцэне.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі сумесна з Цэнтрам беларускай драматургіі прадставілі гледачам адразу два спектаклі: «**Мабыць?**» (рэжысёр Аляксандр Марчанка) і «**Участковыя**» (рэжысёр Алена Сілуціна). У апошняй пастаноўцы чарговы працоўны дзень звычайных участковых ператвараецца ў жорсткае выпрабаванне, пасля якога застацца ранейшым ужо немагчыма, а захаваць у сабе чалавека больш складана, чым выйсці жывым.

Беларускі шоўкейс сёлета парадаваў разнастайнасцю тэатральных жанраў і форм. Так, упершыню ў форуме «ТЭАРТ» узялі ўдзел лялечныя спектаклі. «**Тарцюф**» Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек — адыход ад шаблону. Хвацкі, вясёлы, і… эратычны! У рэжысёра Аляксея Ляляўскага, як і ў папярэдніх пастаноўках, нараджаецца іншая рэальнасць. Але пры гэтым у спектаклі не змянілі ні радка з Жана-Батыста Мальера!

Праграма *Belarus Open* дазволіла гледачам, не выязджаючы з Мінска, пазнаёміцца з лепшымі пастаноўкамі абласных тэатраў. Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы паказаў спектакль «**На дне**». Драматургія Максіма Горкага па-ранейшаму актуальная, сюжэт п'есы супадае з сённяшнімі рэаліямі. Персанажам дадзены характары і тыпажы нашага часу: іх можна сустрэць на рынку, у электрычцы, ля крамы ці проста ў двары. Горкаўскае «дно», на жаль, не экзотыка, хутчэй — штодзённасць.

Тэатр аб'екта ад магілёўскай *Laboratory Figures Oskar Schlemmer* прадэманстраваў работу «**Oratorium**». Стваральнікі лабараторыі Юрка і Таня Дзіваковы даследуюць традыцыі авангарднага мастацтва, спадчыну нямецкага мастака Оскара Шлемера, і іх сцэнічныя выкананні заўсёды здзіўляюць.

Спектакль «**Самазванец**» Брэсцкага тэатра лялек пастаўлены па творы А. Пушкіна «Барыс Гадуноў». Упершыню тэатр лялек адважыўся звярнуцца да такога цяжкага, «непастановачнага» матэрыялу і, як высветлілася, не пралічыўся. Рускі паэт вызначыў жанр свайго твора як «народная драма», а рэжысёр А. Ляляўскі паставіў, можна сказаць, «народную камедыю».

Магілёўскі абласны драматычны тэатр паказаў адразу два спектаклі рэжысёра Саўлюса Варнаса — «**У маленькай сядзібе**» і «**Жаніцьба**». Дарэчы, у «Жаніцьбе» няма станоўчых і адмоўных персанажаў. Кожны нясе свой крыж у залежнасці ад мэты і стану душы.

«**Доступ да цела**» — пастаноўка закрыцця беларускай праграммы форуму «ТЭАРТ». Спектакль пра спектаклі, якія былі сыграны пластычным тэатрам «ІнЖэст», пра памяць і мары, фантазіі і рэальнасць адначасова.

Да 23 кастрычніка аматары тэатральнага мастацтва ўбачаць 25 спектакляў калектываў з Беларусі, Бельгіі, Венгрыі, Германіі, Грузіі, Італіі, Латвіі, Расіі, Украіны, Швейцарыі, Японіі. Арганізатары V Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» — Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «Арт Карпарэйшн», ААА «Белгазпрамбанк» пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

**Таццяна ШЫМУК**

# Каб паспець...

**Выстаўка «Паспець паказаць...» адкрылася ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Праект унікальны для Беларусі і асабліва актуальны ў юбілейны год Перамогі. Класіка ваеннай фатаграфіі 1941 — 1945 гадоў. Частка здымкаў зроблена на тэрыторыі Беларусі. Большасць — з аўтарскім подпісам. Некаторыя з іх прадстаўлены ўпершыню!**



*Барыс Яраслаўцаў «Ізноў бамбёжка. Беларусь». Чэрвень, 1941 г.*

Для экспазіцыі адабрана каля 170 арыгінальных фотаработ з калекцыі Льва і Аляксандра Барадуліных. Гэты збор класічнай савецкай фатаграфіі — адзін з найбуйнейшых і дарагіх у свеце. Аўтары работ — прызнаныя класікі фотамастацтва, такія як Яўген Халдзей, Анатоль Марозаў, Макс Альперт, Дзмітрый Бальтэрманц і многія іншыя. Калекцыя ацэнена сусветнымі аўкцыёнамі *Sothybey's* і *Bahnam's* прыкладна ў 3 мільёны долараў.

Падчас адкрыцця выстаўкі калекцыянер Аляксандр Барадулін падзяліўся гісторыяй стварэння збору ваенных фатаграфій. Ідэя належыць яго бацьку, фатографу Льву Барадуліну, у мінулым фотакарэспандэнту часопіса «Огонек». Мэта — аддаць даніну памяці ўсім, хто пацярпеў падчас вайны.

— Я вырас у фатаграфічнай сям'і, і мне захацелася захаваць тое, што ў пэўны гістарычны момант выкідвалася і вынішчалася. Я стаў купляць у многіх фатографаў іх каштоўныя фотаархівы, ратуючы артэфакты і адначасова дапамагаючы таленавітым людзям. Так паступова сфарміравалася калекцыя, — распавёў Аляксандр Барадулін.

Ідэя праекта — заклікаць да гістарычнай памяці, паказаць вайну вачыма людзей, для якіх яна была рэальнасцю. А яшчэ — паказаць гераізм у мастацтве. Кожнае фота — шэдэўр, створаны ў прамым сэнсе на мяжы жыцця і смерці: «Камбат» Макса Альперта (1942), «Ленінград у блакадзе» Барыса Кудаярава (1942), «Салдацкая праца» Ізраіля Азерскага (1942), «Стаяць насмерць!» Эмануіла Еўзерыхіна (1944), «Да Берліна — рукой падаць» Анатоля Марозава (1945) і г. д. Частка экспазіцыі сабрана ў спецыяльны альбом. З-за жорсткіх кадраў яго могуць паглядзець толькі наведвальнікі, старэйшыя за 18 гадоў.

— Падчас падрыхтоўкі праекта была праведзена вялікая даследчая праца. Мы шукалі гісторыю і імёны герояў літаральна кожнага здымка. На жаль, чым далей ад вайны, тым меншая верагоднасць даведацца праўду. І нягледзячы на тое, што звесткі ў розных крыніцах разыходзяцца, гэта той час, тыя людзі і тая праўда, якую мы павінны захаваць, — адзначыла ініцыятар і галоўны куратар праекта Мая Кацнельсон.

Сімвалічны і слоган прадстаўленай калекцыі — «Паспець паказаць...». У межах праекта ён набывае найглыбейшы сэнс: «паспець паказаць, каб задумацца цяпер і не ніколі паўтарыць жахаў вайны».

Праект рэалізаваны сумесна з Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пры падтрымцы Пасольства Ізраіля ў Беларусі і Міністэрства адукацыі нашай краіны.

Выстаўка будзе працаваць да 15 лістапада.

**Тацццяна ШЫМУК**



*Міхаіл Савін «На палі Беларусі прыйшоў мір». Ліпень, 1944 г*

# Слухаем Беларусь

**Мінск і Беласток аддзяляюць сотні кіламетраў. Але беларускае слова можна пачуць і па радыё «Беларусь» са сталіцы нашай дзяржавы, і на хвалях беластоцкага радыё «Артадоксія».**

Вось ужо больш як пяць гадоў дзейнічае дагавор аб супрацоўніцтве паміж Белтэлерадыёкампаніяй і радыё «Артадоксія»: у перадачах польскіх сяброў рэгулярна гучаць галасы нашых вядучых і аўтараў. Акрамя гэтага, жыхары суседняй дзяржавы штодзённа могуць слухаць перадачы на польскай мове беларускага міжнароднага радыё. Візіт у Беластоцкае ваяводства дэлегацыі радыё «Беларусь» на чале з галоўным дырэктарам, пісьменнікам і журналістам Навумам Гальпяровічам чакаўся даўно. Стаўся плённым і насычаным.

Госці з Мінска сустрэліся з кіраўніцтвам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, дырэктарамі Тэатра оперы і мастацкага музея, узялі ўдзел у навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці», якую мясцовыя беларускія арганізацыі традыцыйна ладзяць сумесна з Гродзенскім аблвыканкамам і Беластоцкім універсітэтам, пабывалі ў творчых калектывах, беларускамоўным дзіцячым садку. Адбыліся зацікаўленыя гутаркі з мясцовымі літаратарамі з аб'яднання «Белавежа», журналістамі, слухачамі.

Разам з журналістамі міжнароднага радыё «Беларусь» з нашага боку ў сустрэчах узялі ўдзел намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў, загадчык філіяла «Дом Валенція Ваньковіча» Сяргей Вечар, саветнік Пасольства Беларусі ў Рэспубліцы Польшча, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко.

Удзельнікі сустрэч выказалі спадзяванне, што супрацоўніцтва і ўзаемныя кантакты паспрыяюць павелічэнню слухачоў нашага радыё ў суседняй краіне, а значыць, пра Беларусь і сяброўскія кантакты з суседзямі будуць ведаць за мяжой яшчэ больш.

**Вячаслаў ЛАКЦЮШЫН**

# Сын агульнай дзяржавы

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы пры падтрымцы Мастацкага музея і Пасольства Літвы ў Беларусі прадстаўляе работы беларуска-літоўскага мастака Пётры Сергіевіча. Выстаўка атрымала назву «Сын роднага краю».**

Пётра Сергіевіч узнагароджаны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР і пры гэтым з'яўляўся сапраўды беларускім мастаком. Яго творчы шлях пачаўся ў Заходняй Беларусі, якраз у тыя часы, калі, як кажуць, у паветры лунаў водар свабоды. Ідэі нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення захапілі выпускніка Віленскага ўніверсітэта. Ён падтрымлівае актыўныя зносіны з беларускай, польскай, габрэйскай інтэлігенцыяй.

Увабраны ў гэтым асяроддзі дэмакратызм знаходзіць адлюстраванне ў яго першых самастойных работах. На іх — «працоўны люд»: кавалі, аратыя, сяляне і гарадскія рабочыя.

Адзін з гасцей выстаўкі, які ведаў Пётру Сергіевіча асабіста, распавёў гісторыю, што дэманструе ўсю глыбіню гуманізму мастака. Аднойчы яго запрасілі распісаць вясковую царкву. Аднак замест святых ды анёлаў з німбамі і строгімі позіркамі Пётра Сергіевіч адлюстроўвае блізкіх яго сэрцу жыхароў гэтай вёскі. На жаль, ксёндз не ацаніў памкненне мастака і запрасіў іканапісцаў, пахаваўшы ўнікальныя фрэскі пад напластаваннем царкоўных сюжэтаў.

Пётра Сергіевіч атрымаў выдатную адукацыю. Ён прайшоў школу рэалізму



*«Шляхам жыцця».*

і з'яўляецца ідэйным спадчыннікам тых, хто працаваў у рэалістычнай манеры — Н. Сілівановіча, С. Заранкі, рускіх перасоўнікаў, польскіх мастакоў школы Яна Матэйкі.

Аднак у некаторых работах прыкметны і ўплыў імпрэсіянізму. Імпрэсіяністычная тэхніка заўсёды ўражвае, калі, здавалася б, разрозненыя, грубыя мазкі павольна сплятаюцца ў малюнак, што нібыта свеціцца знутры. У такім стылі Пётра Сергіевіч адлюстроўваў родныя пейзажы, адрыны ўдалечыні, стагі сена і пагоркі. Кожны беларус, зірнуўшы на гэтыя карціны, адразу ж пазнае сваю радзіму, што яшчэ раз падкрэслівае духоўную роднасць мастака з нашай зямлёй.

Але найбольш на Пётру Сергіевіча паўплываў Янка Купала, якога той ведаў асабіста. На выстаўцы партрэт паэта займае ганаровае месца.

Мастак заўжды меў пры сабе томік любімага паэта, зноў і зноў вяртаючыся да яго вершаў, якія сваім свабодалюбствам, любоўю да роднага краю абуджалі натхненне. І сапраўды, купалаўскі дух жыве ў карцінах мастака. Ён адчуваецца ва ўсім: у каларыце палотнаў, іх рытме і, вядома ж, гуманістычным пафасе.

Прыналежнасць Пётры Сергіевіча адразу да дзвюх нацыянальнасцей падымае глыбокія пытанні. Што такое радзіма і дзе яна заканчваецца? Ці абмежаваная яна тэрыторыяй дзяржаў,



*Селянін Грыб з Сачынят каля Жодзічак. 1937 г.*

межы якіх змяняюцца са стагоддзя ў стагоддзе? Або сапраўдная радзіма там, дзе ты нарадзіўся, дзе жывуць твае родныя і блізкія, дзе ў паветры лунаюць пахі, знаёмыя з дзяцінства?..

Сваёй творчасцю Пётра Сергіевіч дае адназначны адказ.

**Ілья ІВАНОЎ**

## Сяргей ПАНІЗНІК:

# «Пераклады — маціцы роднай краіны»

**Сяргей Панізнік — знакавае імя ў практыцы беларускага мастацкага перакладу. Шмат ім зроблена для развіцця стасункаў беларускай літаратуры з літаратурамі Чэхіі, Латвіі, В'етнама. Размовай з таленавітым творцам «ЛіМ» і пачынае рубрыку «Дыпламатыя перакладу».**



**— Сяргей Сцяпанавіч, ці ёсць сёння неабходнасць у мастацкім перакладзе, як 30 — 40 гадоў таму?**

— Тады ішла данасычанасць нацыі. А пераклады — гэта пратуберанцы мацерыка пад назвай «Літаратура Беларусаў». Творцам ахвоцілася паказаць сваё сталенне, напяць перакладамі спружыны ўзаемадачыненняў, паказаць генетычнае сваяцтва Слова — каб спраўдзіцца на вокладках духоўнага спараднення. Перажылі мы бурлівы ўсплёск узаемнай перакладчыцкай дзейнасці. Падумаць толькі: паўтара дзясятка кніг беларускіх аўтараў было на рахунку тлумача — латыша Талрыда Руліса. Рупліва працаваў чэх Вацлаў Жыдліцкі. Чаму ён часта выдаваў Караткевіча, тлумачыць адзін з яго аўтографаў: «…каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго радзіме». Апантанасць, у дадзеным выпадку Караткевіча, нараджала зваротныя дзеі. Якія глыбінныя памкненні духу сённяшняга літаратара абудзяць фібры іншамоўнай душы суседа?

Вось і прымай, зямляк, адказ беларускай паэтэсы з Амерыкі Вальжыны Морт на запытанне «А што пра нас ведаюць у свеце?»: «Для еўрапейскага чытача мы — іншасць, для амерыканскага — чорная дзірка». А ці новыя Калумбы паплывуць самі па сабе адкрываць літаратуру Злучаных Штатаў? Хто даручыць зрабіць такі подзвіг самой Вальжыне Морт? Для гэтага трэба не толькі абуджаць патэнцыял нашых творцаў, выяўляць новыя грані іх тэкстаў. Дзяржаўны інтарэс павінен быць пры ядры ў арэху. Аж дрыжыкі пайшлі, калі ўгледзеў вокладку перакладзенай кнігі М. Міклухі-Маклая з Белдзяржвыда 1929 года…

А чым яшчэ запомніўся б нам Язэп Семяжон, калі б не паспрабаваў першым перакласці «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага, які ўсе сілы аддаў абуджэнню нацыянальнай свядомасці свайго народа?

І толькі вяртаннем да ўзаемных перакладаў сцвердзім: «Мы — ёсць!», «Мы — можам, дарагія сябры!» А сабрыс у латгалаў — гэта добры сусед.

Творчая прысутнасць на міжнародных шалях талентаў — не толькі неабходнасць. Гэта гарантыя таго, што наша літаратура — і цверж, і вязьмо агульначалавечых памкненняў. Няважна, што я пакуль што хаджу ў пасталах. Памятаю: пасталы — абутак апосталаў.

**— Ці абавязкова перакладчык павінен валодаць мовай арыгінала, перакладаючы, у прыватнасці, паэзію?**

— Пераклады — маціцы роднай краіны. У маёй роднай хаце калыска вісела не на бэльцы, а на маціцы…

Рыгор Барадулін калісьці рыфмаваў: «Перакладчыкі-шпалаўкладчыкі» і жартаваў пра перакрадчыкаў. Вось і я перакладаў вершы, створаныя на чэшскай, польскай, латышскай мовах… Украінская для мяне асаблівая: гэта маё л ь в о ў с к а е насычэнне. Так, трэба мовай валодаць (*valoda* па-латышску і ёсць «мова»). А найперш трэба ўжыцца ў планету, з якой выраслі творцы.

У 1970-я я пачаў перастварацъ вершы чэшскіх паэтаў — як прабачэнне за тыя падзеі, у якіх апынуўся ў ЧССР. Эва Панізнік з Гданьска ў гаворцы з Марынай Весялухай пажартавала, што мае пераклады ёй спадабаліся больш, чым свае вершы. Пшэпрашэм, то ж Панізнік з Мёрскага раёнаператлумачыў творы паэткі, чые бацькі паходзяць з Мёршчыны. Над тэкстамі латышоў я сядзеў разам з сястрой — Нінай Янсанэ. З яе вуснаў калыхаліся тлумачэнні слоў. Так, «грамата» — гэта кніга, «базніца» — бажніца, «весніца» — гасцініца… І райнісаўскае слова праяснялася мне з румаў Дзвіны-Даўгавы. А сукаватыя падрадкоўнікі ў румы, каб звязаць з іх плыты-ганкі, не ўкладваліся. Тады, каб перакладаць, трэба самому перастварацца.

**— Калі б у вас быў час, веданне мовы, магчымасці для шырокай публікацыі, то перакладам з якіх моў аддалі б перавагу?**

— У мяне ёсць наробак — зборнік перакладаў «Сустрэча роднасных сусветаў», выдадзены ў 1997 годзе Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францыска Скарыны ў серыі «Ад сэрца да сэрца». Тэматыка яго дзякуючы А. Мальдзісу шырокая. Але найдаражэйшымі для мяне застаюцца пераклады вершаў 14 латышскіх паэтаў,12 украінскіх, 21 чэшскага. От бы выдаць зборнік «Ад сэрца да сэрца», ажывіўшы паўзабытыя руны архіва, далучыўшы паэтычныя эрытрацыты з пульсацыі апошніх гадоў, асабліва з артэрыі Украіны. І не забыцца пра Эву Панізнік з Гданьска!

**— Якім увогуле павінен быць выбар беларускіх перакладчыкаў? Што варта ім болей засвойваць: славянскія літаратуры альбо іншых народаў?**

— Пераклады могуць быць выгаднай дыпламатыяй дзяржавы. І не трэба асцерагацца тэрміна «глабалізацыя». У гэтай уніі дэкларуецца незнішчальнасць нацый і іх духоўны наробак. Славянскі свет — без розных навісанняў — больш прытульны, раднейшы, вякоўны. Але гэта толькі важны плацдарм для пашырэння межаў. Уявім: у Мінску факультэт перакладчыкаў запрашае замежных лінгвістаў, далучае да іх сваіх маладых паліглотаў. Беларусізуюцца два крылы не шпалаўкладчыкаў, а кнігаўкладчыкаў. Выпускнікі з надзейным дыпломам працуюць у нашых замежных пасольствах, а самі замежнікі — у мінскіх амбасадах самых розных краін… На жаль, сёння мы яшчэ толькі напружваемся ўхапіцца за мерыдыяны і паралелі Зямлі з багацейшым экватарам.

**— І чаму ў такім разе айчынных перакладчыкаў не цікавяць, напрыклад, літаратуры народаў Афрыкі? Чаму мала перакладаецца з літаратур народаў Лацінскай Амерыкі?**

— А таму, што не паглядзелі хаця б на вокладку перакладзенай кнігі М. Міклухі-Маклая. А таму, што нанова не ацэньваем подзвігі земляхоў Ігната Дамейкі, Іосіфа Гашкевіча, Яна, сына Дамініка Чэрскага… Такія імёны — іскрынкі для літаратурных пранікненняў на розныя кантыненты для ўзнаўлення міжнароднай вібрацыі беларускага Слова. І хай самыя смелыя пройдуцца іерусалімскімі шляхамі Радзівіла або Еўфрасінні Полацкай, мо і апазнаюць дзесьці на аціхлых скрыжалях продкаў і Крыж Лазара Богшы, які «знік», каб мы наноў не паўталі духам.

Аседласць не ў гонар нашчадкам плытагонаў-асначоў на вялікім Шляху з Грэкаў у Варагі. Калі ў нас не будзе творчага водару, то падсохлыя словы не выкацяцца на бальшакі-гасцінцы.

Расправім крылы — і нават з англійскіх вуснаў пачуем беларускае: хай! То хай і пераклады саткуцца ў надзейную дыпламатыю краіны. А для натхнення творцам ёсць у нас геній усясветнай моцы Францыск Скарына — перакладчык, паліглот. Славутым заснавальнікам беларускай школы перакладу наша нацыя будзе ганарыцца вечна.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Захаваем разнастайнасць!

**У выдавецтве *BalkanMedia* (Сафія) пабачыў свет першы выпуск міжнароднага навуковага штогодніка «*Scriptura Mundi:* пісьменствы свету».**




Такі шырокі агляд пісьменстваў і пісьмовых культур розных краін і народаў зроблены ўпершыню. У гэтым унікальным выданні прадстаўленыя артыкулы амаль чатырох дзясяткаў вядучых нацыянальных экспертаў з 24 краін свету. Ёсць тут і работа доктара філалагічных навук, прафесара Івана Саверчанкі пра беларускага першадрукара, філолага і пісьменніка-інтэлектуала Францыска Скарыну.

Адметна, што выдавецкі праект, распрацаваны *BalkanMedia*, быў падтрыманы ЮНЕСКА. У прывітальным слове — агглядзе першага выпуску штогодніка Генеральны дырэктар міжнароднай арганізацыі Ірына Бокава зазначае: «Цягам апошніх шасці дзесяцігоддзяў ЮНЕСКА распрацавала шырокі спектр стратэгій і праграм для падтрымкі моў і захавання лінгвістычнай разнастайнасці ў свеце. Зараз мы працуем над тым, каб дыялекты і мовы, што знаходзяцца ў небяспецы, уключаліся ў нацыянальную палітыку асобных краін, каб развівалася шматмоўная адукацыя, а мовы, што знікаюць, успрымаліся перадусім як інструмент для захавання і перадачы ўнікальных мясцовых ведаў».

Па меркаванні спадарыні Ірыны Бокавай, з'яўленне такога міжнароднага выдання менавіта ў наш час асабліва актуальнае: ініцыятыва адказвае на агульную патрэбу сур'ёзнага вывучэння моў і мясцовых культур маўлення ў той час, калі лічбавая рэвалюцыя значна ўплывае і на пісьмовае слова.

І сапраўды, пад уплывам уніфікаванай мовы тэхналогій, законаў інтэрнэт-зносін, дзе ўсё працуе акурат на патрэбу спрашчэння канструкцый і хуткай перадачы інфармацыі, губляюцца тыя адметныя асаблівасці мясцовых моўных культур, у якіх — традыцыі, значныя моманты гісторыі не толькі асобнай мовы, але і ўсёй нацыі ў цэлым. Кажуць, Д'ябал хаваецца ў дробязях, і менавіта ў дачыненні да мовы, пісьмовай культуры гэтае выказванне надзвычай дарэчнае. Думаецца, таму выдаўцы штогодніка *Scriptura Mundi* і яго рэдактар доктар Росен Мілеў (Балгарыя) у першым выпуску праекта вырашылі звярнуць увагу на вытокі пісьменстваў розных краін і народаў. У сваім артыкуле доктар Мілеў падкрэслівае: «Пісьмо — гэта не толькі адно з найбольш важных, значных вынаходніцтваў цывілізацыі. Яго распрацоўка і развіццё цесна звязаныя з прагрэсам і эвалюцыяй чалавека і грамадства. Гэта — сродак выражэння ўнікальнасці чалавека, яго стваральнага генія».

Дзе вытокі сучаснай пісьмовай культуры розных народаў? Адкуль бярэ пачатак літаратурная мова і як фарміраваліся яе графічныя адметнасці? Менавіта на гэтыя пытанні адказваюць лінгвісты з розных краін у сваіх артыкулах. Таму і нядзіўна, што на старонках аднаго навуковага штогодніка (а яго аб'ём — больш як чатыры сотні старонак) можна знайсці звесткі пра паходжанне алфавітаў, сістэму пісьма індзейцаў Майя, адметнасці пісьмовай культуры Старажытнага Егіпта, старажытныя манускрыпты Індыі, яўрэйскія традыцыі пісьма і многа іншых цікавых фактаў пра культуры і мовы розных народаў.

Асобны раздзел выдання прысвечаны партрэтам першадрукароў — тых людзей, што былі вынаходнікамі друкарскіх станкоў, выдатнымі асветнікамі, мысліцелямі, навукоўцамі. Тут поруч з імёнамі Іагана Гутэнберга — нямецкага вынаходніка друкарскага станка, сербскага асветніка XVIII ст. Захарыя Арфеліна стаіць імя беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Менавіта яго постаці прысвечаны артыкул доктара філалагічных навук, прафесара Івана Саверчанкі.

Адметна, што ўсе артыкулы ў выданні «*Scriptura Mundi:* пісьменствы свету» падаюцца ці толькі на англійскай мове, ці ў фармаце білінгва: па-англійску і на адной з дзяржаўных моў краіны, дзе жыве аўтар. Такі фармат прадстаўлення тэкстаў, безумоўна, будзе садзейнічаць пашырэнню аўдыторыі выдання, а магчыма, і ўзнікненню навуковай зацікаўленасці ў больш глыбокім вывучэнні пісьмовых культур розных нацый.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Анёлы ці дэманы?

**Сальвадор Далі, Анры Мацiс і Марк Шагал — упершыню ў Мінску на выстаўцы «Вялікія класікі XX стагоддзя». Больш як 200 работ знакамітых майстроў са збораў замежных калекцыянераў размясціліся ў прыватнай галерэі «Дом карцін».**

Графічныя палотны ахопліваюць перыяд з 1910 па 1970-я гады, таму, каб атрымаць поўную эстэтычную асалоду ад экспазіцыі, давядзецца выдаткаваць не адну гадзіну. Тэхніка выканання карцін — як правіла літаграфія, ксілаграфія, афорт.

Творы Сальвадора Далі займаюць самую маштабную плошчу. Нядзіўна: гэта, па-першае, — сто каляровых эстампаў (адбіткі з гравюры) да «Боскай камедыі» Дантэ Аліг'еры, якія суправаджаюцца трапнымі цытатамі. Работы ствараліся вялікім жывапісцам-сюррэалістам у Парыжы ў 1959 — 1963 гадах. На іх — усё, што і не снілася самым апантаным фантазёрам: ад «карты» чалавечых заган і слабасцей да цудоўных пяшчотных пейзажаў і постацей такіх знакавых персанажаў, як выдатная Беатрычэ, мудры Вяргілій, змрочны Харон альбо магутны Кентаўр.

Сальвадор Далі вылучыў ключавы момант кожнай са ста песень «Боскай камедыі», востра і ярка перанёс на паперу перажыванні паэта, які сутыкнуўся з таямніцамі іншага свету.

У калекцыі палотнаў Далі можна ўбачыць і падножжа цудоўнай гары ў залатых світальных промнях, і чароўную пяшчоту боскага саду, і вогненную нябесную лесвіцу. А побач — перапляценні чалавечых цел, грэшных душ і злавесных фурый, лісліўцаў, ашуканцаў і крывадушнікаў… Не, не пужае — захапляе аж да самай падсвядомасці. Пераходзячы з адной залы ў іншую, праходзіш ледзь не ўсе кругі пекла, знаёмішся з анёламі і дэманамі, адчуваеш недатыкальную прысутнасць бога і д'ябла — зразумела, у метафарычным сэнсе. Па-другое, галерэя дэманструе некалькі работ Далі з серый «Уяўленні і аб'екты будучага» і «Пяць бессмяротных іспанцаў».



Марк Шагал «Заліў анёлаў».

Літаграфіі Марка Шагала, створаныя ў Парыжы ў 1956 годзе, — цалкам біблейскія сюжэты. Для мастака Біблія была «рэхам прыроды», таямніцай, якую ён спасцігаў, а потым перадаваў і захоўваў на сваіх палотнах. Па словах майстра, ён імкнуўся выказаць формамі і фарбамі ідэалы братэрства і любові, міру і згоды. Перад вачыма гледачоў — прарок Ісая, які ўзводзіць рукі да чырвонага месяца ў час спусташэння зямлі, Давід, запалонены чужой жонкай, Вірсавіяй, Адам і Ева, выгнаныя з раю, пахучае дрэва жыцця, крывавыя бойкі Каіна і Авеля і, нарэшце, карціна стварэння свету.

Вядома, што ў 1931 годзе некалькі месяцаў Шагал прабыў у Палесціне, Сірыі і Егіпце, што і стала натхняльным штуршком для стварэння шматлікіх гуашаў і афортаў на біблейскую тэму. Гледачы змогуць акунуцца ў атмасферу Кнігі Быцця, цыкла пра Аўраама, Кніг Прарокаў. Буйныя планы, наўмысна спрошчаны стыль, спалучэнне яркіх адценняў — заўважныя рысы твораў. Выстаўлены таксама больш лаканічныя чорна-белыя работы Шагала, што часам нагадваюць каліграфію.

Трылогію геніяў у "Доме карцін" завяршае Анры Мацiс. Ён лічыў, што кампазіцыя — гэта ўменне дэкаратыўна размеркаваць розныя элементы, каб выказаць свае пачуцці. Наведвальнікі ўбачаць не звыклыя жывапісныя палотны, а аплікацыі, адны з самых апошніх тварэнняў аўтара, які з-за хваробы ужо не мог трымаць у руках пэндзаль. Аголеныя жаночыя постаці з каляровай паперы — лейтматыў экспазіцыі.



Сальвадор Далі «Плаціна ўздоўж пясчанага патоку».

Выстаўка працягнецца да 31 снежня, але работы Мацiса прабудуць у Мінску да 25 кастрычніка.

У галерэі «Дом карцін», якая, дарэчы, адкрылася зусім нядаўна, ужо шмат творчых планаў. У 2016 годзе абяцаюць правесці выстаўку расійскага жывапісу з Санкт-Пецярбургскага музея, затым — творы Пабла Пікаса, Хуана Міро і Васіля Кандзінскага. Акрамя таго, у галерэі можна будзе наведаць майстар-класы, лекцыі, паказы мастацкіх і дакументальных фільмаў, размясціўшыся на ўтульных чырвоных канапах з кубачкам кавы ці гарбаты. Гаспадары частуюць. І маюць намер здзіўляць. Сачыце за навінамі!

**Марыя ВОЙЦІК**

# Рэмбрант побач з Мункам

**Прагуляцца па музеях Еўропы, ахапіўшы некалькі стагоддзяў? Лёгка! Самыя знакамітыя творы еўрапейскага мастацтва ў інтэрпрэтацыі сучаснага аўтара — на выстаўцы жывапісу і графікі славацкага мастака «Павел Поп. Размова з класікамі» ў Цэнтры сучасных мастацтваў.**



«Леанарда».

Беларускі глядач зможа ўбачыць частку калекцыі, якая складае 40 жывапісных палотнаў і графічных лістоў — смелую інтэрпрэтацыю добра вядомых, ужо класічных, работ. Мастак, родам з XXI стагоддзя, вядзе адкрыты дыялог са сваімі папярэднікамі, сімваламі эпох. Карціны, падпісаныя імёнамі майстроў, выглядаюць нібы прысвячэнні: «Леанарда», «Гоі», «Рэмбранту», «Мунку», «Дэга»…

Павел Поп звяртаецца да прадстаўнікоў розных стыляў і кірункаў жывапісу: ад Рэнесансу да Авангарда. Творы нагадваюць калажы, дзе побач з партрэтам знакамітага мастака з мінулага размясціліся яго музы, дакладней, лепшыя вобразы. Чысціня стылю цалкам захаваная. Але ў той жа час аўтар не проста глядзіць назад, а пераасэнсоўвае, прапускае праз сябе творчасць жывапісцаў. Цытаванне, кампіляцыя, дыялог, вольнае прачытанне — як толькі не называюць работы крытыкі! У любым выпадку, сусветная гісторыя мастацтва — перад вачыма. Моцная кампазіцыя палотнаў утрымлівае ўсе фрагменты, ствараючы адзінае цэлае.

У закаханых, што танцуюць, можна адразу пазнаць Эдварда Мунка — па мяккіх контурах, абцякальных формах, што плаўна пераходзяць адна ў адну. На іншай карціне — Жанна Самары Агюста Рэнуара абдымаецца з незнаёмцам, а на палатне, адрасаваным Эдгару Дэга, мы бачым яго нязменны сімвал — балерыну.

Падчас адкрыцця выстаўкі намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў зазначыў:



«Вермееру».

«Канцэпцыя, якую выбудоўвае мастак, — гэта ў першую чаргу класіка. Павел Поп выходзіць на яе праз складаны, рызыкоўны канцэпт. Справа ў тым, што ў жывапісе ёсць памежныя зоны — эксперымент можа вынесці мастака ў навізну ці, наадварот, паказаць яго непрацаздольнасць. Тое, што робіць Павел Поп, — удалы прыклад. Аўтар мае добры густ і сталае разуменне таго, што такое сусветная культура. Ён вызначае новыя сувязі ў мастацтве, яшчэ раз пацвярджаючы, што яно — вечнае».

**Марыя ВОЙЦІК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 8.10.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1492 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12